
Пасля прэм'еры ➔3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Круг гісторыі ➔8


http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 16 (3075) Год LX Беласток, 19 красавіка 2015 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Музычна-спартыўны ДЗЕНЬ ВОЛІ

З набрынелага, чорнага неба шпарыў дождж. У гэты раз, як ніколі, само надвор'е вырашала пра ажыццяўленне класнай ідэі. Святкаванне Дня Волі ў Кузніцы-Беластоцкай мела пачацца футбольным матчам за кубак Язэпа Варонкі. Драўляны кубак выразаў сам Уладзімір Наумюк, народны мастак з Канюкоў. Згодна пачатковай задуме матч мелі сыграць мясцовыя хлопцы з беларускай камандай. У такі спосаб арганізатары мелі адкрыць кузніцкую моладзь на асобу першага прэм'ер-міністра БНР, народжанага напрыканцы XIX стагоддзя ў іх мясціне. Аднак у здзяйсненні спартыўнага свята ў пачатковай задуме перашкодзіла не адно надвор'е. Школьныя ўлады не былі зацікаўлены прапановай арганізатараў, на матч не прыйшоў ніхто са школьнікаў і настаўнікаў. Праўда, для ўдзельнікаў беларускага свята была адкрыта школьная спартыўная зала. З другога боку, спаборніцтва ў закрытай зале неяк замаскіравала кузніцкі астракізм. Да гэтага яшчэ даходзіў шок, які ўспыхнуў на пачатку матча. Лукаш Леанюк, які на свае плечы ўзяў ролю не толькі арганізатара, але і капітана футбольнай каманды, не хаваў хвалявання. Хапіла глянуць на крутых сапернікаў, каб адчуць жах:

— Каб ведалі, што так будзе, то запрасілі б на нашае месца хлопцаў з *Ягеленіі*! — ратаваў жартам безнадзейную сітуацыю.

У ролі сапернікаў мелі выступіць студэнты Акадэміі фізічнага выхавання з Белай-Падляшскай, чыстай вады спартсмены.

— Раструшчаць нас у пыл! — паўтараў Лукаш.

Яго эмоцыі былі цалкам апраўданыя, паколькі беларускую каманду пачаткова прадстаўлялі адно капітан і яго надзейны сябра Пятро Стэльмашук. Трэці «футбаліст» у дзень матча заявіў, што не прыедзе, *бо ў яго захварэў кот*!

Сітуацыі не выправілі студэнты-каліноўцы, якія спецыяльна прыехалі на Свята Волі ажно з Варшавы. Яны памахалі ў святле фотаўспышак бел-чырвона-белымі сцягамі і пацягнуліся ў Дом культуры, у якім ужо расставілі мікрафоны і гатавалі пачастунак для прыезджых.

Словам, катастрофа здавалася непазбежнай.

* * *

Ужо ў першай хвіліне «беларуская» каманда забіла гол. Папраўдзе абедзве каманды толькі па назве былі «беларускай» і «польскай». На адным і другім баку ігралі з сабой беларусы, палякі, украінцы і чэх. Разам толькі восем асоб. Каб залатаць кадравыя недахопы, белападляшская каманда адступіла двух сваіх футбалістаў для «беларусаў» — адзін з іх быў па нацыянальнасці чэх, другі — паляк. Такі міжнародны нацыянальны састаў крыху напамінаў сусветныя стандарты. А сам матч — гэта быў агонь!

— Якім шляхам папалі вы ў Кузніцу-Беластоцкую? — пытаем у Якуба Зарадкевіча, дэкана Факультэта турызму і адпачынку Акадэміі фізічнага выхавання ў Белай-Падляшскай, які прыехаў разам са студэнтамі на матч.

— Наша вучэльня супрацоўнічае з беларускім Радыё Рацыя. Яны часта гавораць пра нашы падзеі, мерапрыемствы. Таму мы хацелі аддзячыць ім і прынялі запрашэнне сыграць важны для беларусаў матч.




**Язэп Варонка** – першы прэм'ер-міністр Беларускай Народнай Рэспублікі, беларускі палітычны і грамадскі дзеяч, журналіст. Нарадзіўся 4 красавіка 1891 г. у Кузніцы-Беластоцкай. Быў адным з арганізатараў БНР у 1918 г., лідарам Беларускай партыі сацыялістаў-федэралістаў, старшынёй таварыства «Беларуская грамада» ў Каўнасе. З 1923 года жыў у ЗША, узначальваў Беларуска-Амерыканскую нацыянальную асацыяцыю, уваходзіў у кіраўніцтва Беларуска-Амерыканскай рады. Памёр у 1952 г. у ЗША.
Першы партрэт з серыі вядомых беларускіх дзеячаў звязаных з Беласточчынай аўтарства Андрэя Мікалаева.

Беларускія справы для дэкана не чужыя.

— Палова нашых студэнтаў — грамадзяне Беларусі, — адзначае. — Праўда, калі ім прапанавалі сыграць матч, амаль усе адмовіліся. Баяліся, што з-за гэтага будуць праблемы пасля вяртання ў Беларусь.

Матч за кубак Язэпа Варонкі выйгралі беларусы з вынікам 14:11. Найбольш заўзятымі футбалістамі аказаліся самі арганізатары: Лукаш Леанюк і Пятро Стэльмашук. Яны ў нічым не саступалі чыстай вады спартсменам ды забівалі галы адзін за адным. Шкада толькі, што не хапіла публікі, асабліва жаночай — баявітасць, спрыт і прага перамогі, якую паказалі хлопцы, на нашым беларускім панадворку справа незвычайная. Уразіў яшчэ жэст арганізатараў. Кубак Язэпа Варонкі — сам па сабе мастацкі твор — у знак спартыўнага духу сяброўства паехаў у Белую-Падляшскую.

Далейшую частку святкавання выпаўніў класны канцэрт «Дзецюкоў» з Гародні. Пад іх музыку добра гуляла за паўсотні прыезджай публікі, у тым ліку група моладзі і настаўнікаў з Бельскага белліцэя. На свяце пабываў сакольскі віцэ-староста Ежы Беламызы — як адназначыў, прыехаў неафіцыйна, а з патрэбы душы.

Другое Свята Волі ў Кузніцы-Беластоцкай праходзіла ў дажджлівую суботу 28 сакавіка г.г. у мясцовым Доме культуры. Установа ўжо другі раз бясплатна дала месца для правядзення свята. У гэты раз арганізавала яго таварыства «Гай» з Гацькоў, а яго несумненнай завадатаркай была Ганна Мордань, журналістка Радыё Рацыя.

**Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК**




Ганна Мордань віншуе пераможцаў турніру


Гродзенскія «Дзецюкі»

9 770546 196000



# Мультфільм жахаў

Ну вось і дачакаліся. Дэкрэт пра „тунеядцаў” падпісаны. Правільна то ён называецца цалкам незразумелым для недасведчанага вуха словазлучэннем дэкрэт „Аб папярэджанні сацыяльнага ўтрымanства”. Але ў народзе яго ўжо назвалі больш зразумелай і дастаткова канкрэтнай фразай, якая паказвае самую яго сутнасць — падатак на паветра, бо плаціць трэба насамрэч толькі за тое, што чалавек больш чым паўгода знаходзіцца на гэтай зямлі і, адпаведна, дыхае гэтым паветрам.

Адразу ўспамінаецца некалі вельмі папулярны мультфільм пра Чыпаліна. Менавіта там упершыню быў уведзены падатак на паветра. Было насамрэч смешна гэта пачуць. І мы смяяліся, і нават не здагадваліся пра тое, што такі падатак можа існаваць дзе-небудзь яшчэ акрамя смешнай дзіцячай казкі.

Але зараз не да смеху. І не таму, што нейкай колькасці так званых дармаедаў прыйдзецца заплаціць нейкую колькасць рэальных грошай, якіх у іх тэарэтычна быць не павінна. І ўсё гэта дзеля таго, каб утрымліваць нейкую колькасць непатрэбных работнікаў, якія будуць адсочваць тых дармаедаў, каб забраць у іх гэтыя грошы. Атрымліваецца нейкае замкнёнае кола з абракадабры. Мультфільм жахаў. Страшна падумаць, што ж будзе далей. Што яшчэ яны прыдумаюць?

А нешта ж абавязкова прыдумаюць. Дармаедскія грошы не могуць ўратаваць эканоміку краіны, нават калі ўявіць, што ўсе „тунеядцы” Беларусі сапраўды заплацяць неабходную суму. Што яна значыць для краіны?

Але ж і плаціць пакуль што ніхто не збіраецца. У вялікай часткі тых дармаедаў ніхто і не будзе патрабаваць платы, бо сапраўдныя дармаеды грошай не маюць. Яны лазяць пад гарэлачнымі крамамі і просяць у мінакоў дабавіць на бутэльку. Ці яны цяпер будуць прасіць яшчэ і на падатак? Ды яны пра яго не чулі і не пачуюць ніколі. Ні адзін падаткавік да „тунеядцаў” не прыйдзе, бо ведае, што грошай усё адно ў іх няма, а клопатаў ад таго можа быць мноства. Пасля і начальства па галаве не пагладзіць за тое, што справу завёў і да канца не давёў. То лепш яе і не пачынаць.

Ну а тыя, што грошы маюць, ужо пачалі імкліва абмяркоўваць у сацыяльных сетках як гэты дэкрэт абысці. І ўжо павыдумлялі мноства варыянтаў. Прыкладам, узяць у якой-небудзь расійскай установе спраўку, што больш чым паўгода чалавек прабыў на кватэры ў свайго расійскага сябра. І як даказаць адваротнае? У Беларусі з Расіяй няма памежнага пашпартнага кантролю і праверыць калі грамадзянін выехаў, колькі разоў, на як доўга і калі вяртаўся на радзіму — немажліва. Думаю, хутка такімі ліпавымі спраўкамі будуць ледзь не на кожным куце гандляваць па пяць долараў за поўны камплект расійскіх дакументаў з рэальнымі подпісамі і пячаткамі.

Таму нават не верыцца, што дэкрэт дзеля грошай быў задуманы. Калі паглядзець на яго з другога боку, то можна заўважыць некалькі пабочных акалічнасцей. Прыкладам, ён цалкам скасоўвае традыцыйны беларускі погляд на класічную сям'ю, дзе муж ходзіць на працу, а жонка займаецца хатняй гаспадаркай. Зараз хатняя гаспадыня мусіць плаціць. Пасля таго, як з ужытку была амаль цалкам выціснутая беларуская мова, гэты ўдар па традыцыйным поглядзе на жыццёвы ўклад беларусаў таксама не паспрыяе ўмацаванню нацыянальнай беларускай адметнасці.

Ёсць і больш страшныя рэчы. Ад некаторых прадпрымальнікаў, у якіх браку патрыятызму, ужо чуў думкі пра тое, што ў Расіі бізнес весці лягчэй, таму яны не былі б супраць, каб Беларусь стала часткай расійскай эканамічнай сістэмы. Зараз да гэтых непатрыятычных прадпрымальнікаў далучыцца і частка непатрыятычных дармаедаў. Ну а пасля частка яшчэ каго-небудзь. Так пакрысе, глядзіш, і набярэцца неабходная колькасць.

Ну а з грашамі будзе хутчэй за ўсё гэтак жа як у тым мультфільме пра Чыпаліну. Калі галоўны ўбачыў, што ў казне не прыбавілася, то стаў крычаць на падначаленых і высвятляць, дзе дзеліся грошы ад падатку на паветра. І тады адзін напалохана сказаў:

— Вы ведаеце, як толькі мы ўвялі падатак на паветра, то гэтыя сволачы сталі менш дыхаць.

Віктар САЗОНАЎ

# Свежыя — нясвежыя



Страшэнна зараўло над Еўропай. І нічога! Гэта было падобна на гук надыходзячага Апакаліпсісу. І што ж? Толькі некалькі дзён таму высветлілася, што ў пачатку красавіка адбыўся дэманстрацыйны паказ амерыканскай стратэгічнай авіяцыі пад кодавай назвай «Палярны роў». Гэта быў адказ на ваенныя правакацыі Масквы. Амерыканскія самалёты, здольныя несці ядзерную зброю, праляцелі дакладна тымі ж шляхамі, якія перасякаюць за апошнія некалькі месяцаў расійскія бамбавікі, нахабна парушаючы паветраную прастору Злучанага Каралеўства ці Эстоніі і Нарвегіі, а ў апошні час нават Аляскі і Канады. На шчасце, дэманстрацыя сілы ЗША не скончылася Армагедонам. Аднак, вельмі нешматлікіх гэта кранула. Гэта даказвае, што канец свету, які мы ведаем, пройдзе па-за нашай увагай. Занятыя сваімі зямнымі справамі мы нават не прыкмецім, што нас няма. Нават калі б Зямля ператварылася ў попел, і з усіх краін, не толькі з Польшчы, засталася толькі куча камення, то людзі будуць працягваць праклінаць адны адных, біцца і тузацца да апошняй крыві. У важных і няважных пытаннях. Але тое, што ёсць і што акажацца ў будучыні, часта залежыць ад бягучай оптыкі.

У Беларусі іншы від оптыкі паразітаў, абуджаных да жыцця вясновым прэзідэнцкім указам аб барацьбе з паразітызмам-"тунеядствам", а іншая яна ў прэзідэнта. Паводле яго слоў, дармаеды ў Беларусі з'яўляюцца чумой, пагражаючай дзяржаўнаму ладу, што і пацвярджае панічны ўказ. З іншага боку, у адпаведнасці з меркаваннямі „тунеядцаў”, чуму дармаедства развалок па краіне прэзідэнцкі ўказ аб дармаедстве. У Беларусі, ілюзорна, занятасць не для ўсіх. Колькасць аплатных работ абмежаваная. Тым не менш, няма ніякіх праблем з працаўладкаваннем грамадзян у незлічоных грамадскіх суботніках, навязаных народу з боку ўлады. Спантаннае падмятанне вуліц, пасадка дрэў і вырошчванне гарадскіх газонаў беларусам прыносіць славу, але, з другога боку, грамадскія суботнікі эфектыўна зніжаюць колькасць працоўных месцаў. Абмяжоўваюць працу, аплачваную адэкватнай зарплатай. Толькі што дзяржаўная каса, якая фінансуе ў большай частцы аплату штатаў у Беларусі, пустая. Так як кожны працаўладкаваны грамадзянін патрабуе не толькі месячнай заработнай платы, але і сацыяльнай абароны, адукацыі і аховы здароўя, дзяржаўная коўдрачка аказваецца закароткай. Але знойдзецца спосаб і на гэта. Я іду ў заклад са стаўкай букет цюльпанаў супраць карэнішчаў пырніку, што неўзабаве пасля ўказа прэзідэнта аб дармаедстве пойдзе наступны, аб неабходнасці актывізацыі грамадскіх суботнікаў. Ідэя, згодна з якой усё грамадства працуе ў грамадскім пачыне, здаецца быць прывабнай для дзяржавы. Горш будзе, калі ахвярная грамадскасць стане патрабаваць ад дзяржавы, каб і яна стала грамадскай.

Як відаць з вышэйнапісанага, оптыка вельмі рухомая. Іншая ў гістарычным бачанні, і яшчэ іншая ў цяперашні час. Іншая святочная, іншая на штодзённай аснове. Падчас велікодных святаў вельмі важнае пытанне свежасці яек. Шмат гадоў таму, яшчэ ў эпоху да Бальцаровіча, калі былі аднолькава шэрыя не толькі касцюмы, але і ідэнтычныя па ўсёй краіне цэны на прадукты харчавання, выдатны журналіст і паэт Антоні Слонімскі засмучаваў над адказам прадаўшчыцы кааператыва «Сполэм», якая на пытанне маэстра чаму некаторыя яйкі каштуюць даражэй, а іншыя больш танныя, рашуча выпаліла: «Таму, што больш дарагія свежыя, а таннейшыя — свежыя часткова». Ці гэта магчыма, разгубіўся спадар Антоні, што курыца раз зносіць свежыя яйкі, а іншы толькі часткова свежыя? Якой яна кіруецца оптыкай? Аперацыя «Палярны роў», пра якую я пісаў на пачатку артыкула, то, вядома, збольшага састарэлае паведамленне. Часам, аднак, тое, што нясвежае, цудам аднаўляе сваю бездакорную свежасць. Гэтак адбылося са словамі старой песні царскай салдатні, якая ў яе такт гвалтавала суседнія краіны — «Наша матушка Россия всему миру го-ло-ва...», якую сёння, у абноўленай форме, спяваюць «зялёныя чалавечкі» ва Украіне. Як гэта ёсць, што несправядлівасць працягвае ўмацоўвацца ў сваіх несправядлівых рацыях? І што праўда заўсёды знаходзіць для сябе яшчэ больш праўдзівы бок? Гэтыя пытанні папахваюць нясвежасцю, але я вырашыў асвяжыць іх.

Міраслаў ГРЫКА



**Вачыма еўрапейца**

# Адышоў Роберт ЛЯШЧЫНСКІ

Ледзь ва ўзросце 48 гадоў памёр Роберт Ляшчынскі, музычны крытык з незабыўнымі дрэдамі, вялікі аматар і прапагандыст сучаснай беларускай музычнай сцэны, асабліва рок і поп. Прысвяціў ёй шэраг артыкулаў, і падтрымліваў яе, дзе мог, не толькі ў Польшчы. У 1994-2000 гадах ён працаваў у «Выбарчай газеце». Быў кіраўніком аддзела культуры штотыднёвіка «Wprost», суддзёй у папулярных музычных тэлешоў, у тым ліку «Idol», вёў музычную праграму на TVP Polonia. Як першы ў Польшчы прысвяціў велізарны журналісцкі матэрыял ужо культаваму сцэнічнаму музычнаму праекту «Народны альбом». Садзейнічаў яму за мяжой Польшчы і на Захадзе. Музычны беларускі партал Tuzin.fm нагадаў неўзабаве пасля яго адыходу 1 красавіка: „Цікавіўся і беларускай поп-музыкай. Быў у захапленні ў сярэдзіне 2000-х ад «Чорнага бумэра» Сярогі, а камэнтуючы на польскім ТВ «Еўрабачанне-2009», заззначыў, што перамога Аляксандра Рыбака справядлівая, бо той паходзіць з Беларусі, дзе вельмі развітая народная музыка». Міхал Анемпадыстаў, графік, паэт, фатограф, сааўтар «Народнага альбома» згадвае на гэтым сайце: «Ён быў з адукацыі сацыёлаг, таму і музыка яго цікавіла менавіта ў гэтым плане перадусім, як складовая і актыўная частка культуры. Таму ён адсочваў усе падзеі ў нашай музыцы, востра адчуваў, што беларускі рок на той час быў фактычна нацыятворчай з'явай». У сваю чаргу на свaім профілі на адной з сацыяльных сетак напісаў аб ім: „Выдатны музычны крытык, чалавек з актыўнай жыццёвай пазіцыяй, сябра Беларусі. На пачатку 90-х я выпадкова натрапіў на ягоны артыкул у «Выбарчай», і зразумеў, як можна і трэба пісаць пра музыку. Я тады падумаў, што аўтар гэта такі сівы рок-інтэлектуал з Вудстакам за плячыма. Потым ён прыехаў на канцэрт НА ў Бельск і мы пазнаёміліся асабіста. Ляшчынскі аказаўся нашым аднагодкам, энергічным, актыўным і адначасова тонкім (...). Ён не проста прасоўваў нашу музыку і культуру, каб падтрымаць такім чынам нас, ён хацеў, каб нас пачула Польшча, каб пачула, здзівілася і натхнілася тым, чым былі на той момант багатыя мы — высокай матывацыяй, шчырасцю і энергіяй».

Ілона Карпюк, былая старшыня Беларускага аб'ядання студэнтаў, калісь арганізатарка фестывалю «Басовішча» (Роберт Ляшчынскі не толькі наведваў гэты фестываль у якасці гледача, але і сядзеў у журы) сказала ўсхваляваная, успамінаючы ў размове з «Нівай»:

— Ён не толькі падтрымліваў ініцыятывы, накіраваныя на заахвочванне і рэальную падтрымку беларускай культуры, асабліва музыкі, але больш за ўсё падтрымліваў людзей. Вось чаму яго заўсёды будуць памятаць тыя, што ўклалі шмат працы і сэрца ў папулярызацыю беларускай музыкі. На «Басовішчы» бываў гадамі, ведаў, цаніў, дапамагаў сваім аўтарытэтам. Гэта быў важны час, калі нараджаліся шматлікія ініцыятывы свабоды, а свабода без музыкі гаворыць быццам няпоўным голасам. Я таксама памятаю, што яго захапленне ўсходняй культурай было неацэнным у «Ідале». Усе маладыя гайнавяне, што ўдзельнічалі ў адборачных канцэртах гэтай праграмы, адчувалі нейкую нябачную апеку Роберта, асабліваю сімпатыю. Дарэчы, мая сястра, Гося Карпюк, таксама прарвалася праз іх у першую чаргу таму, што сваёй песняй трапіла ў сэрца Роберта. У яго была ўсходняя душа. Адышоў уражлівы і важны чалавек.

Я сам апошні раз размаўляў з ім у мінулым годзе на канцэрце «Салідарныя з Беларуссю», якога ён першыя выпускі сумесна арганізаваў і вёў. Тады на тратуары за бар'ерам для гледачоў распавядаў з нагоды гэтай падзеі, што было запісана ў «Ніве»:

— Восем гадоў таму здавалася, што Украіна ўжо выйграла, што знаходзіцца на шляху да стабільнасці і дэмакратыі. Аказалася, што, усё ж, не. Гэтыя восем гадоў таму мне падалося, што і Беларусь ідзе да дэмакратыі, але крыху пазней, праз год ці два. Я расчараваны. У музычным рок-плане я заўсёды быў той думкі, што ва Украіне і Беларусі музыка лепшая, чым у Польшчы, таму што яна ідэйная. Я таксама расчараваны таму, што, на жаль, у апошнія гады не ўдалося прасунуць у Польшчы зоркі гэтай музыкі першага фармату.

Будзь пахаваны з мірам.

Мацей ХАЛАДОЎСКІ

# СОНЬКА
## Пасля прэм'еры


Святлана Анікей і Рафал Мацьковяк


Катажына Сергей і Алесь Малчанаў

**Хвалюючы, часам нават працінаючы аж да болю, момантамі гуллівы, але больш за ўсё мудры і з убіваючайся ў памяць па-майстэрску адыгранай роляй Святланы Анікей з Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы — такі ёсць спектакль «Сонька» на аснове рамана Ігната Карповіча, у адаптацыі аўтара. Аднак адаптацыя адрозніваецца ад кнігі, таму што яна пераўтварылася ў ходзе рэалізацыі спектакля. Прапрэм'ерны спектакль Драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку ў рэжысуры яго дырэктаркі Агнешкі Карыткоўскай-Мазур верагодна, ні аднаго з гледачоў не пакінуў абыякавым. Тым больш гледачоў з нашага староння, таму што ён па ўсім тутэйшы ў самой сваёй гісторыі і яе сцэнічным аповедзе.**

Галоўны фабульны шкілет рамана Ігната Карповіча, родам са Случанкі, у якую ў кнізе і адаптацыі вяртаецца (у кнізе — у адну з падляшскіх вёсак, у п'есе ў Случанку, Каралёвае Стойла, Гарадок), ці, па меншай меры, да гісторыі, якая, кажуць, адбылася ў тамашняй ваколіцы, застаўся некранутым у пастаноўцы. Мы з'яўляемся сведкамі аповеду пра каханне ў ваенны час сялянскай дзяўчыны — якраз Сонькі да Ёахіма-эсэсаўца, пра што старая ўжо Сонька расказвае выпадкова трапіўшаму да яе рэжысёру з Варшавы Ігару-Ігнату, які адрокся ад свайго паходжання. Упераменшку пераплятаюцца ў спектаклі светы маладой Сонькі (Катажына Сергей) і старой (Святлана Анікей), тэатра ў тэатры, дзе Ігар-Ігнат (Рафал Мацьковяк) спрабуе стварыць на вачах гледачоў якраз усё ж няскладную гісторыю, абапёртую на базе яе прызнанняў. «Сонька» на сцэне гэта не толькі мнагамерная гісторыя — як пісаў аб ёй Ігнат Карповіч — аб Соньцы, якая гаворыць толькі па-беларуску, толькі нямецкамоўным Ёахіме, якія закахаюцца аддзін у аднаго, дзе словы непатрэбныя. Не толькі гісторыя аб «неверагоднай любові, нягледзячы ні на што», з якой «Рамэо і Джульета маглі б шмат навучыцца». Дык аб чым яшчэ? Найлепш паставілі гэта самі рэалізатары перад прэм'ерай падчас прэс-канферэнцыі. **Агнешка Карыткоўская-Мазур**:

— Ёсць у рамане і ў спектаклі шмат матываў, якія падключаюцца адзін з адным. Ёсць шмат рэчаў, якія адбываюцца на розных узроўнях, уплываючы на шмат іншых рэчаў. Мы хочам расказаць пра выратаванне прастаты. Аб тэатры памяці. Але і пра паразітаванне мастака і выкарыстоўванне гісторыі іншых людзей.

**Ігнат Карповіч**:

— Ігар шукае адпаведную мову, каб пакавзаць гісторыю Сонькі. Гэта трохі падобна на жарт пра перакладчыка. Пераклад, калі ён прыгожы, мусіць быць недакладным. Такі пераклад робіць Ігар. Такім чынам ён сапраўды не можа перадаць таго, што перажыла Сонька. Такім досведам цяжка наогул падзяліцца.

**Агнешка Карыткоўская-Мазур**:

— «Сонька» з'яўляецца таксама тэатрам памяці, дзе ўспаміны прыходзяць да сучаснасці. У гэтым тэатры два акцёры. Старая Сонька маладзее, а Ігар, які аказваецца ў рэшце рэшт Ігнатам, старэе.

Нягледзячы на прапановы ад іншых прэстыжных тэатраў у Польшчы, **Ігнату Карповічу** залежала на тым, каб першая пастаноўка «Сонькі» адбылася якраз у Беластоку, на Беласточчыне:

— Тое, што тэарэтычна было ў рамане тэатральным, дык тэатральныя ў ім устаўкі. Яны сапраўды зрабілі нам цяжкасці ў працы. Аказалася, што тэатр на паперы не цалкам адлюстроўваецца ў тэатры на рэальнай сцэне. І нечакана гэтыя часткі кнігі, якія не былі тэатральныя, аказаліся найбольш тэатральнымі. Праца па адаптацыі стала на разбурэнні адаптацыі. І тады паўстала новая адаптацыя. У маёй галаве ў гэтым спектаклі ўсё гэта можа не як з оперы, але як з рэву.

Катажына Сергей, увасабляючыся ў поўную наіўнасці, прастаты маладую Соньку, з намаляванай свастыкай на ілбе, у шлюбным вянку, згвалтаваная бацькам, якога ігpae **Марэк Тышкевіч**, мераўшы свае сілы на беларуска-тутэйшую мову:

— Мы ўсе стараліся працаваць з вялікай пільнасцю і канцэнтрацыяй. Сонька з'яўляецца характарам поўным любові, дзяўчынай, якая закахалася без памяці. А што не ў таго, што трэба, гэта ўжо іншае пытанне. Цяжка судзіць пра гэтую любоў, проста так атрымалася. Ва ўсякім выпадку, я стараюся — наколькі магу — абараніць гэтую асобу. І жадаю ўсім такой інтэнсіўнасці пачуццяў, якую адчула Сонька.

Старая Сонька з'яўляецца постаццю з тварам схаваным у хустку, сагнутай у крук, рухаючайся з цяжкасцю, мармычучы час ад часу штосьці пад нос. Святлана Анікей гэтую ролю сыграла па-майстэрску: не іграла старой, уся была ёю — у пластычнасці цела, спрацаваным жэсце, грымасах твару, выказванні тэксту. **Ігнат Карповіч**:

— Роля Святланы Анікей як Сонькі гэта стрэл не ў дзясятку, а ў сто. Яна з'яўляецца самай дасканалай Сонькай, проста фантастычнай. Прытым Катажына Сергей як маладая Сонька і Святлана Анікей як старая выдатна дапаўняюць адна адну, прычым маюць зусім іншы набор тэмпераментаў. З гэтых дзвюх Сонек узнікае адна постаць, складаная, надзвычай багатая ўнутрана, цудоўная.

Падчас прапрэм'еры неаднаразова наступала ў аўдыторыі абсалютная цішыня, пра якую мастакі могуць толькі марыць у тэатры. Так было падчас маналогу Мішы (Алесь Малчанаў з тэатра імя Янкі Купалы на польскай мове), які жэніцца з цяжарнай Сонькай, што гарыць каханнем да яе і які за яе змагаецца, незалежна ад таго, чыё будзе дзіцё, якое народзіцца, і супраць клеймавання Сонькі мясцовымі жыхарамі. Асабліва ў гэтыя моманты маўчання правяраліся дэкарацыі Яцка Маліноўскага з аскетычным дызайнам дома, напоўненага столкамі, сталом, іконай у куце, за якой Сонька можа схавацца і да якой нельга дакрануцца. Такія нахабныя ў іншых польскіх спектаклях візуалізацыі тут не мяшаюць (аўтар Кшыштаф Кізевіч) — дапаўняюць гісторыю больш шырокім кантэкстам: тут то выкарыстоўваюцца ў іх фрагменты фільмавых архіўных запісаў: пацыфікацыя гарадоцкіх яўрэяў, а то фрагменты фільма Жан-Габрыэля Перыё з запісамі публічных клеймаванняў жанчын-калабарацыяністак часу вайны з фашыстамі ў Францыі. Акцёры другога плана (большасць з тэатральнага калектыву) іграюць мясцовых жыхароў. Растанцаваныя і расспяваныя, адзначаюць абрадныя беларускія і яўрэйскія кліматы. Ягор Забелаў (аўтар музыкі для спектакля, кот Ёзік), родам з Мінска майстар баяна, на гэтым інструменце дае рытм відовішчу, адзначае эмоцыі, але іх не адлюстроўвае, а часам іх намячае, а часам і дапамагае гледачам у пераходзе ад матыву да матыву, быццам бы ведаў, што павінна было здарыцца. Персанажы гавораць па-тутэйшаму, па-польску, па-беларуску, панямецку, на ідыш. Словы, сказаныя Сонькай — Святланай Анікей выказваюцца ў асноўным «па-свойму», зрэдчас на польскай мове, часам не вельмі зразумела. І не мусяць. Гэта невыпадкова. Сэнсы схаваныя ў іх у тыя моманты раскрываюцца з дапамогай іншых сродкаў яе акцёрскага, майстэрскага набору.

Выходзіўшыя з прэм'еры гледачы былі ўсхваляваныя. Здараліся і такія, што ведаючы кнігу не змаглі прыйсці да згоды з яе тэатральнай, адрозніваючайся ад арыгінальнай, паэтыкай, асабліва з аголеных — як казалі — ад жару знаёмства і любоўнага захаплення Сонькі і Ёахіма (неверагоднае ўражанне выклікае яго ўваход на сцэну, як увасабленне любоўнай мары ў белай форме эсэсаўца з дробленымі белымі анёльскімі крыламі):

— Гэты момант быў тут патрактаваны закоратка і вельмі халодна, а ў кнізе ён вельмі паэтычны.

Некаторыя прызнаваліся:

— Мне цяжка казаць пра спектакль, таму што я фанатка кнігі. Зроблены тут скарачэнні, выбары. Мне спадабалася збудаванне блізкасці паміж Сонькай і Ігарам. Гэта было новае ў адносінах да рамана, цікавае і хвалюючае. Паказалі, як можна зрабіць мастацтва з чыйхсьці пакут.

Яшчэ іншыя:

— Часам я выцірала слёзы, каб ніхто не бачыў. Гэтая «Сонька» адрозніваецца ад кнігі, але аднолькава добрая.

Многія выказалі меркаванні такія як **Аліна Ваўранюк**, настаўніца са згуртавання «АБ-БА», рэалізатарка тэатральных спектакляў з беларускай моладдзю:

— Я здзіўлена — міла. Я ішла са стаўленнем анты, а цяпер гатова біць паклоны перад рэалізатарамі. Знакаміта адыграны адносіны рэжысёр — Сонка. Абедзве Сонькі і Святлана Анікей, і Катажына Сергей былі фантастычныя, а перад тым, што зрабіла Анікей з рухам, паводзінамі, голасам, усім разам — здымаю капялюш. Гэта топ-палёт акцёрскай школы. Мне ўсё спадабалася, а таксама тая велізарная карова Муцька што з'язджае зверху на сцэну ў канцы спектакля

Сваіх уражанняў не хаваў дэпутат **Аляксандр Сасна**:

— Знакаміта, неагрэсіўна пераказана. Мая жонка, якая больш знаецца на тэатры, зачаравана. Выглядала б дзіўна, калі б сусветная прэм'ера спектакля адбылася, напрыклад, у Варшаве, а не ў Беластоку. Гэта натуральнае месца для такой тэматыкі.

Выходзіўшая з прэм'еры **маці Ігната Карповіча**, падобна як і ў фінальнай сцэне ў візуалізацыі-фрагменце фільма некаторыя жыхары Случанкі ў аўтэнтычных сваіх заявах, прызналася:

— Я ведаю гэтую гісторыю з апавяданняў. Мала хто аб ёй памятае, але гэта было праўдай. Гэтая жанчына жыла вельмі доўга. З гэтай мясцовасці, адкуль паходзіла, родам мая бабуля, і калі мы сустракаліся з сям'ёй, часам гаварылі пра гэта.

І дадала:

— Я вельмі ганаруся Ігнатам і кранута гэтым спектаклем.

На фінальным фільме некаторыя жыхары Случанкі таксама сцвярджаюць, што гісторыя Сонькі прыдумана. Незалежна ад таго, ці адбылася яна ці не, варта пайсці на насычаную экстрэмальнымі эмоцыямі гісторыю Агнешкі Карыткоўскай-Мазур і Ігната Карповіча, якая, як казка, расказана Светай Анікей Рафалу Мацьковяку, Сонькай Ігару-Ігнату,ператвораная ў мову тэатра, што ў рамане пачынаецца так: «Даўным-даўно — так Соня (...) пачынала сказы, якія груглі дзесьці ў горле, спыняліся на гладкіх, бяззубых дзяснах, каб саслізнуцца зноў нанова ў цела: у лёгкія, сэрца, і пыл, які збіваўся ў клубкі пасярод старых, паношаных органаў. Але часам пасля таго «даўным-даўно» словы пераадольвалі супраціў, праколвалі тканкі мяса і часу, гучалі да канца, і толькі тады назад вярталіся ў цела: праз вушы блукалі ў мозг, там шукалі месца, там чакалі, аж сон расслабіць здарэнні, аж паслабіць праблемы — тады ўжо, каторы ўжо раз, словы сніліся як гісторыі, і добрыя, і фэкія, залежыць ад таго, кудэма глядзець, калі прачнуцца і куды не дайсці».

Сусветная прэм'ера «Сонькі» была таксама ўнікальная тым, што была праведзена ў Міжнародны тэатральны дзень (27 сакавіка). Крыху раней у фае тэатра адкрылі выставу **«Garden»**. Яна прадстаўляе фатаграфіі Максіма Шуміліна, фатографа з Мінска, які нарадзіўся ў Магілёве, выпускніка факультэта журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Аб паказаных тут працах іх аўтар кажа: «Пачуццё даўно страчанага сакрэту я стараюся захаваць у сваіх фотаздымках (...). Дрэвы, будынкі, звычайныя рэчы раскрываюць свае сакрэты, таямніцы, якія я быў у стане зразумець толькі ў дзяцінстве. Гэта мой Сад, куды на самой справе я ніколі не буду ў стане вярнуцца. І толькі ў малюнках, створаных у алхімічных растворах, у цьмяным святле чырвонай лямпачкі часам атрымоўваецца знайсці яго абрысы».

Бліжэйшыя спектаклі «Сонькі» ідуць 17, 18 і 19 красавіка.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

## Бабулін эліксір!

Гэтаму рэцэпту мяне навучыла мая бабуля, якая да гэтага часу здаровая і ў свае 92 гады выдатна сябе адчувае і нават ездзіць на ровары.

Вось рэцэпт эліксіру маладосці, які мая бабуля раіць рабіць так.

Увесну, калі цвіце шыпшына, трэба сабраць яе пялёсткі, прыкладна спатрэбіцца шклянка пялёсткаў, можна больш. Свежасабраныя пялёсткі трэба хутка прамыць халоднай вадой, і ўкласці пластамі ў слоік, які раней прастэрылізаваць. Кожны пласт пялёсткаў трэба заліць мёдам, зачыніць вечкам і паставіць у халадзільнік на 1 месяц. Праз месяц эліксір маладосці гатовы.

Яго трэба ўжываць з не гарачай гарбатай па 1 малой лыжачцы 3 разы на дзень, курс прыёму каля месяца. Можна ў склад эліксіру дадаць пялёсткі кветак яблыні, ад гэтага якасць эліксіру толькі палепшыцца. А восенню мы рыхтуем такі эліксір з пладоў шыпшыны. Чысцім іх ад костачак, і вельмі дробна перамолваем, змешваем з мёдам і настойваем месяц. Ужо праз тыдзень пасля прыёму эліксіру маладосці адчуваецца каласальны прыліў сіл і энергіі, з'яўляецца жвавасць. Мы забыліся, што значыць хварэць ад прастуды, а гледзячы на бабулю, нават не сумняваемся ў тым, што гэта сапраўды эліксір маладосці! А яшчэ, гэты мёдзік можна дадаваць у маскі для твару, а пялёсткі шыпшынніка ў выпечку! Паспрабуйце!

**Ясюк СТРУК**

*Галіна БІРЫЦКАЯ*

## *У Тарнопалі*

*У гадах пяцідзясятых*
*Дзяўчат, хлопцаў тут многа было.*
*У дзень у полі працавалі,*
*Вечары стараліся правесці весяло.*
*Рана весела спявалі салаўі.*
*А пад вечар дзяўчаты пасвілі кароў.*
*Песні дзявочыя звонкімі галасамі*
*Па-над лесам Тарнопаля плылі.*
*Стаіць яшчэ тут хата Кардашова,*
*У якой часта танцы адбываліся.*
*Мяне сюды дзяўчаты*
*і хлопцы запрашалі,*
*З іншай я вёскі,*
*ахвотна сюды прыязджала.*
*Цяпер вёска пастарэла,*
*а ў ёй людзі пастарэлі,*
*Моладзь уся павыязджала.*
*Стаіць сумна хата дзеравяная,*
*Даўно музыкаў ужо не чула.*
*Многа падзей было калісь.*
*Часта вяртаюся думкамі ў прошлае,*
*Пра вёску Тарнопаль у маім жыцці.*
*Не адны ўспаміны добрыя асталісь...*



# Беларускае роднае слова

**У Бельскім доме культуры 25 сакавіка прайшлі цэнтральныя элімінацыі 44 Дэкламатарскага конкурсу «Роднае слова», арганізатарам якога з'яўляецца Таварыства беларускай культуры з Беластока. Дэкламавалі па-беларуску 103 дашкольнікі і вучні падставовых ды гімназічных школ.**



Лаўрэатка II месца Аляксандра Буслоўская з Гайнаўкі

Найбольш удзельнікаў прыступіла да раённых элімінацый у Гайнаўцы — ажно 133 дэкламатары. У Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Бельску-Падляшскім, які састаўляе асобны раён, да конкурсу прыступіла 85 вучняў, на раённым аглядзе ў Орлі дэкламавалі 43 дашкольнікі і вучні, а ў Беластоку за магчымасць выступіць на цэнтральных элімінацыях змагаліся 60 дашкольнікаў і вучняў. На высокі ўзровень дэкламацыі звярнуў увагу старшыня конкурснай камісіі, мовазнаўца, доктар Васіль Сегень з Універсітэта ў Беластоку. У журы конкурсу працавалі яшчэ настаўніца-бібліятэкарка з Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы Ірэна Ігнатовіч і кіраўнік Аддзялення мастацкай адукацыі Бельскага дома культуры **Яніна Плютовіч**.



Лаўрэат I месца Максім Фіёнік з Бельска-Падляшскага

— Узровень сёлетніх дэкламацый — высокі, можа нават крыху вышэйшы за мінулагодні. Дзеткі робяць менш моўных памылак чым бывала раней. Яны перш за ўсё — польскамоўныя. Дашкольнікі і вучні пры дапамозе настаўнікаў павінны звярнуць увагу на ўсе асаблівасці беларускай літаратурнай мовы. Найцяжэй навучыць дзеткам правільна вымаўляць «л», ці правільна ставіць націскі, — сказаў **Васіль Сегень**.

Цікава дэкламавалі ўдзельнікі ўсіх чатырох катэгорый конкурсу. Рэпертуар у іх таксама быў разнародны. Маімі першымі суразмоўцамі былі Максім Фіёнік і Павел Кучынскі з бельскай «тройкі», адкуль на цэнтральныя элімінацыі прыбылі ажно 30 дэкламатараў. Павел дэкламаваў твор «Распяцце Хрыстова» Масея Сяднёва, а Максім — твор «Кніжнік» Людмілы Рублеўскай, што пераклікалася з атмасферай Вялікага посту. Белгімназістка Юсцінія Марчук дэкламуе здаўна, а беларускую мову лічыць сваёй і адчувае сувязь з беларускай нацыянальнасцю. Максім Фіёнік у сваю чаргу адчувае сябе беларусам, а на фарміраванне яго нацыянальнай свядомасці паўплывала перш за ўсё сям'я. Якраз 25 сакавіка ў Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Бельску-Падляшскім арганізавалася ўрачыстая лінейка, прымеркаваная да 97 угодкаў стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі і абвяшчэння незалежнасці Беларусі. Настаўніца беларускай мовы **Валянціна Бабулевіч** арганізавала святочную лінейку на другім уроку, каб пасля школьныя дэкламатары маглі пайсці ў БДК на конкурс «Роднае слова».

Вучні з Нараўкі любяць дэкламаваць і гэта прыцягвае іх на конкурс.

— У нашай школе да конкурсу «Роднае слова» прыступіла многа вучняў, а на цэнтральныя элімінацыі прыехалі 4 асобы, — сказала віцэ-дырэктар і заадно настаўніца беларускай мовы ў Комплексе школ у Нараўцы **Ліля Тарасевіч**. — Нашы вучні любяць дэкламаваць і робяць гэта паспяхова. Вучні хочуць выступаць перад публікай і дабіцца перамогі.

Настаўніца беларускай мовы са школы ў Орлі **Марыя Лемеш** заявіла, што разам са скарачэннем ліку вучняў у школе меншае колькасць навучэнцаў беларускай мовы, а ў выніку — зменшаецца колькасць дэкламатараў. Вучні са школы ў Аўгустове былі рады прыезду на беларускі дэкламатарскі конкурс. Іх настаўніца беларускай мовы **Раіса Ваўранюк** сказала, што перамогі дабіваюцца найчасцей вучні, якія з дзяцінства праяўляюць здольнасці да мастацкага чытання і самі ўмеюць адчуць разнароднасць тэксту і яго асаблівасці.

— Калі вучні гэтага не адчуваюць, то ім складана зразумець заўвагі настаўніка наконт інтэрпрэтацыі верша, — дабавіла Раіса Ваўранюк.

Настаўніца **Яўгенія Сухадола** са школы ў Новым Корніне прывезла аднаго дэкламатара — Якуба Казімірука, які запрэзентаваўся ў катэгорыі вучняў IV-VI класаў. Настаўніца беларускай мовы з Комплексу школ у Нарве **Ніна Абрамюк** была задаволена выступамі большасці сваіх вучняў, якія дайшлі да цэнтральных элімінацый.

— Важна, каб падабраць рэпертуар, які падыходзіць да ўзросту, тэмпераменту і дэкламатарскіх магчымасцей вучняў. Пасля трэба правераць, ці вершы падабаюцца вучням, бо падчас падрыхтоўкі да конкурсу вельмі важнае супрацоўніцтва вучня і настаўніка. Лепшыя мае дэкламатары ўмеюць пакарыстацца на практыцы маімі заўвагамі наконт спосабу дэкламацыі, што дае ім шанц пазмагацца за перамогу, — сказала настаўніца Ніна Абрамюк, якая прывезла 4 дэкламатараў.

З Гімназіі з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы прыехала 4 дэкламатараў, якімі апякуецца настаўніца беларускай мовы **Іаланта Грыгарук**.

— Дэкламуючы перад публікай, вучні пераадольваюць нясмеласць, дрэнныя эмоцыі, вучацца выступаць публічна, што важнае ў сённяшнім свеце, — заявіла Іаланта Грыгарук.

— Я часта дэкламавала жартоўныя тэксты, а сёння выступлю з зусім іншым вершам. Хачу пабачыць як атрымаецца мне дэкламацыя з роздумамі, — заявіла **Дамініка Пуц**.

Вучаніцы Гайнаўскай белгімназіі Юлія Бяганская, Дамініка Пуц, Мартына Панасюк дэкламуюць у чарговы раз і выступленне перад публікай стараюцца выкарыстаць у станоўчым значэнні, каб яшчэ лепш паказаць тое, што запланавалі ў супрацоўніцтве з настаўнікам у класе. Настаўніца беларускай мовы з Комплексу школ № 3 у Гайнаўцы **Анна Франкоўская** прывезла 5 вучняў. Дзяўчаты з гэтай школы Аляксандра Буслоўская, Дар'я Місяюк, Ванда Гінст і Уршуля Падгаецкая сказалі, што стараюцца пераадолець хваляванне і выкарыстаць свой досвед з папярэдніх выступаў. З Непублічнай падставовай школы ў Арэшкаве прыехалі ў Бельск Малгажата Галёнка і Магдаліна Мішчук, якія раней перамаглі на гэтым конкурсе.

— Выступ перад публікай дазваляе мне выкарыстаць дадатковыя дэкламатарскія магчымасці, — заявіла Магдаліна.

Малгажата сказала, што дэкламацыя перад многімі людзьмі не заўсёды ёй дапамагае. Яе мама Анна Галёнка заявіла, што дачка добра выступала перад вучнямі, дома яе дэкламацыя атрымлівалася яшчэ лепш. Назіранні вучаніц пацвердзіла іх настаўніца беларускай мовы **Ірэна Герасімюк**.

Калі конкурсная камісія падвяла вынікі аказалася, што ажно 48 дэкламатараў цэнтральных элімінацый занялі пераможныя месцы або атрымалі вылучэнні. Першыя месцы ў паасобных катэгорыях занялі:

— прадшколлі: **Юлія Кур'яновіч** з Непублічнага садка імя дзіцяткі Гаўрыіла ў Бельску-Падляшскім, **Малгажата Скшыняж** з Бельскага дома культуры і **Інга Хаінка** з Самаўрадавага садка № 14 у Беластоку;

— вучні класаў I-III: **Іван Карсунскі** з Непублічнай падставовай школы імя Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, **Барташ Яканюк** з ПШ № 6 у Гайнаўцы і **Павел Сельвясюк** з бельскай «тройкі»;

— вучні класаў IV-VI: **Ілья Фіёнік** з бельскай «тройкі» і **Лена Сульжык** з ПШ у Гарадку;

— гімназісты: **Магдаліна Маліш** з Гімназіі ў Аўгустове, **Максім Фіёнік** з бельскай «тройкі» і **Крыстыян Паскробка** з Гімназіі ў Нарве.

**(ам-з)**

# Велікодныя кірмаш і майстар-класы



■ Падчас кірмашу можна было купіць пісанкі і іншыя вырабы рукадзелля. Справа: мастачкі з Гродна Святлана Круглаполава і Таццяна Шубіна

Калі ў нас, на Беласточчыне, пачала знікаць традыцыя ўпрыгожвання яек, якімі ў Вялікдзень абдорваюць хросных дзетак, варта намагацца падтрымаць гэтую традыцыю. У Цэнтры адукацыі і прамоцыі беларускай культуры ў Шчытах і ў некаторых гмінных асяродках ладзіліся майстар-класы па выконванні пісанак. Велікодныя майстар-класы 27 сакавіка сарганізаваў таксама Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы. Прынялі ў іх удзел вучні гайнаўскіх школ і дарослыя асобы, якія выконвалі фігуркі жывёл з гліны, выцінанкі ў выглядзе яек і веснавых матываў. З удзельнікамі майстар-класаў займаліся мастакі-рукадзельнікі з Гродна, згуртаваныя ў аб'яднанні «Гродзенскі каларыт». У белмузеі адбыўся таксама велікодны кірмаш, падчас якога можна было купіць пісанкі і вырабы рукадзелля. Суарганізатарам мерапрыемства быў Культурны цэнтр Беларусі ў Варшаве, які апекаваўся творцамі з Гродна (на наступны дзень КЦБ сарганізаваў падобнае мерапрыемства ў Бельскім доме культуры).

— Ідэя арганізавання велікодных кірмашу і майстар-класаў у Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы спраўдзілася ў мінулым годзе і мы рашыліся сёлета наладзіць падобнае мерапрыемства. Моладзь вучыцца ляпіць з гліны і выконваць выцінанкі пад наглядам мастакоў з Гродна. Гайнаўяне прыходзяць у музей купіць перад святамі гатовае рукадзелле. Нашыя мастакі ў сваіх працах вяртаюцца да традыцыі, але таксама выконваюць мастацкія работы з сучаснымі матывамі. У гэтым годзе мы пашырылі нашую прапанову на Бельск-Падляшскі. Падобныя заняткі і кірмаш адбудуцца ў супрацоўніцтве з Бельскім домам культуры, — сказала Юлія Рубіна, намеснік дырэктара Культурнага цэнтра Беларусі ў Варшаве.

— Я думаю, што ідэя кірмашу і велікодных майстар-класаў добрая. Дзеткі і дарослыя наведвальнікі нашага мерапрыемства цікавяцца прадаваным тут рукадзеллем, ахвотна займаюцца з глінай і выконваюць выцінанкі. Мы выходзім да жыхароў Гайнаўшчыны з музычнымі прапановамі, а арганізаванае другі раз у нас велікоднае мерапрыемства гэта новая прапанова для наведвальнікаў, — заявіў Тамаш Ціханюк, дырэктар Гайнаўскага белмузея.

Гайнаўскія белгімназісты спачатку паглядзелі на прадаванае на кірмашы рукадзелле, а пасля частка вучняў выконвала выцінанкі, а іншыя ляпілі з гліны авечак.

— Мы рашыліся выконваць фігуркі авечак, якіх у мінулым практычна гадавалі ўсе сяляне. Выява авечкі была частым матывам святочных аздабленняў, таму я вярнулася да гэтага матыву. Маладым лепш займацца рукадзеллем, чым сядзець перад камп'ютарам, — сказала мастачка Святлана Круглаполава з Абразцовай студыі мастацкай керамікі «Казачная гліна» з Гродна, якая таксама належыць да «Гродзенскага каларыту». — Некаторыя вучні вельмі здольныя, ведаюць як працаваць з глінай. У Гродне мы гліняныя вырабы выпальваем. Выпаленыя сувеніры можна купіць на нашым кірмашы. Выкананыя прыгожыя авечачкі вучні забяруць дамоў.

Ляпіць з гліны гімназісты прыйшлі ў рамках школьных заняткаў разам з настаўніцай мастацтва Бажэнай Ляўчук.

— Праца нашых вучняў пад наглядам мастакоў з Гродна цікавая і вартасная. Бачу, што з ангажавасцю пачалі ляпіць з гліны і выконваць выцінанкі. У школе няма ўмоў для лепкі. Велікодныя майстар-класы ствараюць нагоду практычна пазаймацца мастацкім рукадзеллем. На занятках у школе вучні засвойваюць перш за ўсё тэарэтычныя веды аб мастацтве, а тут адбываецца практычнае абучэнне, — сказала Бажэна Ляўчук.

На майстар-класы ў белмузей прыйшлі вучні класа III «а» белгімназіі, які перамог у «Беларускім турніры», арганізаваным у школе з нагоды Дня Волі.

— Выконванне фігурак авечак з гліны было цікавым, а парады мастачкі з Беларусі былі нам прыдатнымі, — сказалі мне белгімназісткі Дар'я Красько і Караліна Высоцкая.

Адзін з вучняў паказаў слана, якога вылепіў з гліны замест авечкі. Раней ляпіць з гліны і выконваць выцінанкі вучыліся дзеткі з Падставовай школы № 6 у Гайнаўцы. Спецыяліст па мастацтве ў Гайнаўскім белмузеі Агнешка Ціханюк павеламіла, што на майстар-класы прыйдуць яшчэ белліцэісты і чарговая група вучняў ПШ № 6.

— Мы прадаўжаем рабіць тое, што спраўдзілася ў мінулым годзе. Вучні наведваюць музей і вучацца мастацкаму рукадзеллю пад наглядам прафесійных мастакоў-рукадзельнікаў. Дарослым таксама прапануем актыўна правесці ў нашым музеі час. Узровень выкананых тут прац высокі і відаць, што працуюць здольная асобы, — сказала Агнешка Ціханюк. — Калісь вяскоўцы не куплялі сабе аздабленняў, толькі самі іх выконвалі. Мы вяртаемся да традыцыі. Важна таксама, што вучняў і дарослых цікавіць прадаванае ў нас рукадзелле, якое можна выкарыстаць у якасці святочных сувеніраў. Асабліва дзеткі захопленыя тым, што выканалі рукадзельнікі з Гродна.



■ Гайнаўскія белгімназісты выконвалі выцінанкі ў выглядзе яек

Аднак не ўсе дзеткі ўзялі грошы, каб купіць тое, што ім спадабалася. Дарослыя наведвальнікі белмузея куплялі сувеніры для сямейнікаў. Вырабы рукадзелля прадавала аўтарка выпальванай керамікі, мастачка Таццяна Шубіна, таксама член «Гродзенскага каларыту». Спадарыня Таццяна вучыла ляпіць з гліны, між іншым, Святлану Круглаполаву, якая ў музеі вучыла гайнаўскіх школьнікаў апрацоўваць гліну.

— Сярод выпальваных гліняных сувеніраў, якія мы тут прадаем, ёсць фігуркі жывёл, аздабленні для жанчын, яйкі. На велікодны кірмаш мы прывезлі яйкі рознай велічыні, выкананыя рознымі тэхнікамі. Можна ў нас купіць таксама святочныя кураняткі ў кошычках, кветачкі, каралі і паясы з народнымі матывамі, — расказвала мастачка Таццяна Шубіна.

— Многа тут цікавага і прыгожага. Вырабы рукадзелля арыгінальныя, з непаўторнымі ўзорамі, — заявіла настаўніца і заадно метадыст па навучанні беларускай мовы Іаланта Грыгарук.

Моцна ангажаваліся ў працу пры выцінанках гайнаўскія белгімназісты, якія выконвалі перш за ўсё выявы святочных яек. Некаторыя вучні хутка налаўчыліся і зрабілі па некалькі выцінанак.

— Выконванне выцінанак нам падабаецца. Вырэзваем выявы яек, бо набліжаецца Вялікдзень, — сказалі белгімназісты Ганна Хомчык, Барташ Васілюк і Мартына Кярсноўская.

— Мы спачатку выконваем велікодныя яйкі. Тыя, якія хутчэй справяцца з работай, робяць таксама выявы птушак і іншыя веснавыя матывы. Выцінанкі — маё хобі. Святочныя матывы на выцінанках я прымяняю перад святамі Вялікадня і Раства Хрыстовага, — заявіла Вера Геніюш, член «Гродзенскага каларыту».

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА



# Трансгранічныя турыстычныя байкі

Мне яшчэ пашчасціла. Мая бабуля Вольга цудоўна распавядала казкі, у якіх свет жывотных безупынна перасякаўся з чалавечым дабром і злом. Былі гэта казкі, ад якіх чалавек не станавіўся абыякавым да акружаючага яго свету. Прыгожа развівалі яны дзіцячае ўяўленне і фантазію. А самым галоўным было завяршэнне, якое паўтаралася ўслед за любімай бабуляй: „А потым жылі багата, доўга і шчасліва". На жаль, сённяшнія дзеці і падлеткі зрэдку маюць такое шчасце, каб іх бабулі на роднай мове цудоўна баялі казкі. Але прырода не любіць пустэчы. Ролю бабуль перанялі ў большасці агрэсіўныя і нечалавечыя мульцікі. А абавязкі даваць для дарослых абяцанні аб доўгім і багатым жыцці на польскім і беларускім баку ўзялі на сябе чыноўнікі і палітыкі.

Адной з такіх маіх любімых баек, якія люблю слухаць ад трансгранічных баронаў Мюнхаўзенаў, з'яўляецца аповед аб тым, як неўзабаве Падляшша і Гарадзеншчына зажывуць і расквітнеюць ад наезду турыстычнай мошкі з усяго свету. Аднак пакуль гэтай мошкі, якой пакарміліся б мясцовыя абарыгены і прадпрымальнікі, занадта не відаць. Наадварот, з Падляшша і Гарадзеншчыны маладыя людзі пакуль выматваюць як найдалей ад родных хат. А тыя, што засталіся, каб узяць справы ў свае рукі, у турыстычнай дзялянцы ледзь выжываюць. Суседняе з Падляшшам Вармінска-Мазурскае ваяводства значна багацейшае на турыстычныя краявіды, прываблівасці ў выглядзе азёр, узгоркаў, помнікаў даўніны. І лясоў і роварных сцяжынак там таксама хапае. Ёсць толькі адно малое „але"... Гэтае ваяводства самае беднае ў Польшчы — з найвышэйшым паказчыкам беспрацоўя ў краіне. І ва ўсім памежжы прыбытак ад агратурыстычных сядзіб у большасці ўсяго толькі дапаўненне сямейнага бюджэту, а не яго асноўа. І не ствараюць яны занадта новых месц працы. А калі звычайны чалавек пабачыць цэны, якія хочуць браць, напрыклад, за адпачынак беларускія аграсядзібы — то пачухае не толькі патыліцу, але і кішэнь. А калі ўлічыць замежніку ўсялякія візавыя, адміністрацыйныя патрабаванні беларускіх улад — то ўсяго адхочацца. А зараз нават за звычайнае фатаграфаванне міліцыя можа затрымаць для высвятлення справы. Адным словам, высокакваліфікаваны, але малапрыбытковы турызм з сегмента школы выжывання. І тады кожны звычайны чалавек чым хутчэй падасца ў далёкія краіны — бо там і цяплей, і танней, і не пад прыцэлам органаў дзяржаўнай бяспекі. Калі ў нашым рэгіёне толькі тры месяцы цёплага надвор'я, то зарабіць і дакладаць да дзевяці чарговых — вельмі цяжка. Так — sorry, такі ў нас клімат — шчыра сказала калісьці польская міністр інфраструктуры Альжбета Бянькоўская, калі некалькі гадоў таму цягнікі ў Польшчы проста не ад'ехалі, бо замерзлі на рэйках. І трансгранічны турызм менавіта так зараз выглядае — ён замарожаны на векі вечныя.

Аднак чыноўнікі і палітыкі далей распавядаюць сваю любімую турыстычную байку. І яны яе акцыяўляюць з дапамогай капельніцы „еўрыкаў" і „баксаў". І ці будуць яны брусельска-варшаўска-мінска-маскоўкія — гэта не праблема. Грошы не пахнуць, а чыноўнікі ўсіх краін яднаюцца і прытым няблага нажываюцца. Менавіта ім, за іхнія клопаты пра нас, мы — удзячныя грамадзяне памежжа — павінны на пагранпераходзе Кузніца — Брузгі паставіць помнік у выглядзе нямецкага барона Мюнхаўзена. З польскага боку, напрыклад, як барон Мюнхаўзен выцягвае сябе і каня з дрыгвы за свае валасы на галаве, а з беларускага — як Мюнхаўзен з падзорнай трубой на ядры вылятае з гарматы. Дарэчы, менавіта ў такім выглядзе помнік у мінулым годзе адкрылі ў Глыбокім да юбілею горада. З Глыбокага можна пазычыць яго ў Брузгі. Будзе танней і можна на гэтым зарабіць. Нічога не каштуе — толькі невялікая шыльда: „Прафінансавана са сродкаў Еўрасаюза".

Яўген ВАПА



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# Зорка

для дзяцей і моладзі


# Бельскі цмок і каляровыя пёркі

Вясной хочацца гуляць, весяліцца, дзейнічаць. Пазітыўныя думкі наклікаюць змены ў прыродзе. Мы глядзім на бурлівыя ручаі, першыя кветкі, прылёт птушак і таксама хочам кудысьці пашыбаваць. Марым пра веласіпедныя вандроўкі, пра спектаклі, пра паездкі ў іншыя гарады...

На калідоры ў бельскай «тройцы» гучалі беларуская мова і песні, і танцы. Гэта дзеці праводзілі рэпетыцыі перад паездкай на тэатральны агляд. Ці падабалася ім «Казка пра надта сумнага асла Юрку»? Яшчэ як! Кожны хацеў развесяліць заплаканае аслянятка, што згубіла маму. Ролю Аслюка чулліва іграла Марлена Кандрацюк (на аглядзе яна атрымае вылучэнне для найлепшых акцёраў). Падобнае вылучэнне атрымае Аня Мартыновіч, якая дасціпна і вельмі пераканаўча сыграе ролю Пудзіка. І гэта не канец прызоў, якія дастануцца ім на аглядзе ў Беластоку. Гэты спектакль атрымае першае месца!

У тэатры вельмі важныя касцюмы, а калі яшчэ яны напамінаюць вясну — гэта падвойная радасць. Такая атрымалася пастаноўка «Зайцы вараць піва». Тут захапілі птушыныя строі — бусла, дзятла, чаплі, сойкі, вераб'ёў... Гэткіх цудоўных касцюмаў — з разнаколерным пер'ем з лёгкіх тканін — напэўна пазайздросцілі б нашым акцёрам героі казкі «Певень і паўлін». Спектакль паводле твора Уладзіміра Караткевіча рыхтаваў трэці «а» клас пад кірункам настаўніцы Ірэны Кандрацюк. На аглядзе атрымаюць яны трэцяе месца.


фота Ганны Кандрацюк

Напраўдзе аматары школьнага беларускага тэатра з Бельска возьмуць на аглядзе ўсе прэстыжныя месцы. Вось другое месца журы прызначыла каларытнаму спектаклю «Байка пра бельскага цмока». Кожны з нас ведае легенду пра кракаўскага цмока і шаўца Дратэўку. Ды не кожны ведае, што і ў старажытным Бельску таксама былі замак, князь, прыгожая прынцэса і цмок. Ён намерыўся жаніцца з прынцэсай. На шчасце, як у кракаўскай легендзе, станоўчых героя ў і горад выратуе кемлівы шавец.

«Байка пра бельскага цмока» не толькі паставіла нашых акцёраў-хлапчукоў у ролю рыцараў. Яна яшчэ застаўляла агледзець у глыбіню гісторыі. Раней сталіцай Падляшша быў менавіта Бельск. У горадзе захаваліся старажытныя сляды — Замкавая гара, цудадзейныя іконы ў цэрквах, гістарычны рынак і ратуша. Нават герб горада — архаічны тур — напамінае пра старажытнасць места. «Байку пра бельскага цмока» спецыяльна для бельскіх дзяцей перанесла на мясцовы грунт і мову пані Альжбета Фіёнік з Бельскага дома культуры. На беластоцкім аглядзе запрэзентавалі яго дзеткі малодшых класаў з гуртка «Жэўжыкі».

Нам хацелася б пабачыць яшчэ гэтае выступленне ў пленэры, якраз ля бельскай Замкавай гары. Гэтае месца зімой і летам абажаюць дзеці. Яны катаюцца на санках, ладзяць шпацыры, а старэйшыя вучні прыходзяць сюды на першае рандэву. Мабыць, такі спектакль у атачэнні зялёных дрэў, птушыных спеваў, ручайка і таямнічай гары яшчэ больш абудзіў бы нашую цікавасць да рыцарскай культуры, гісторыі роднага горада і роднай мовы.

**Зорка**



*Сільвія ГРЫКА*
*ПШ у Міхалове*

## Аб маім Міхалове

*Мае малое*
*мястэчка – Міхалова,*
*тут свет прыгожы і ласкавы*
*цягнецца навокал.*
*Спакойная ваколіца,*
*чыстыя азёры.*
*Лета гэта найпрыгажэйшая*
*пара года.*
*А лясы растуць цэлыя вякі,*
*сярод іх плывуць ручаі і рэкі.*
*Зялёныя лугі, абсеяныя палі,*
*дзе вельмі ўрадлівая глеба,*
*а спеў птушак рэха*
*далёка нясе*
*на бары, гаі, лясы,*
*голас звяроў чутны*
*па іх берагах.*
*І гэтак нашая гміна малая*
*вялікім мястэчкам стала:*
*высокія дамы,*
*асфальтавыя вуліцы,*
*прыгажэе наш воблік.*
*Гонар нас распірае*
*нават малога мястэчка героя,*
*бо нашая зямля прыгожая.*
*Гэта як нашая каштоўнасць,*
*таму аб ім клапоцімся,*
*прыкрасці тут не знаем.*
*Аднак усё мяняецца,*
*свет расцвітае як ружа-кветка.*
*А слоў усё мала,*
*каб расказаць усю праўду.*
*Можа ніхто ў гэта не паверыць,*
*але нашае мястэчка*
*да чысценькіх належыць.*

## УВАГА КОНКУРС! № 16-15

## Загадкі з роднай хаткі

**Пад зямлёй будуе дом**
**і вядзе тунэлі.**
**Невідушчым маўчуном**
**ён жыве век цэлы.**
**К...**
**(Міхась Пазнякоў)**

**Гудзе**
**ды не самалёт,**
**можа раніць,**
**ды не страла.**
**Хто адгадае**
**хто гэта?**
**П....**
**(Уладзімір Карызна)**

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 26 красавіка 2015 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**Адказ на загадкі № 11-15: дождж, лісце, конь.**

**Узнагароды, беларускія кніжкі «Падарункі» Міры Лукшы, выйгралі Уля Марчук з Нараўкі і Януш Банькоўскі з Нарвы. Віншуем!**

# ПЕВЕНЬ І ПАЎЛІН

*(калмыцкая казка)*

Даўным-даўно на адным панадворку жылі сабе певень і паўлін. У пеўня быў надта прыгожы строй — яго залатыя пёркі блішчалі на сонцы. Усе птушкі зайздрасцілі пеўню. Певень сябраваў і размаўляў толькі з адным паўлінам.

Аднойчы паўлін намерыўся з'ездзіць у далёкае падарожжа. Пагледзеў ён на пеўня і падумаў: «А ці выпадае мне ў такім шэрым касцюме ехаць у замежжа? Сорам паказацца чужым людзям на вочы. Лепш папрашу я ў пеўня, каб пазычыў свой строй. Ён жа найлепшы сябра, напэўна не адмовіць».

І папрасіў паўлін у пеўня пазычыць бліскучыя пёркі. Паўлін паабяцаў звярнуць адзенне наступнай раніцай.

Певень падумаў і кажа:

— А што мне рабіць, калі ты не вернешся да рання?

Паўлін яму адказаў:

— Калі я не паспею, тады ты мяне пакліч, я верагодна з'яўлюся! Калі не пашанцуе раніцай, пазаві мяне ў абед. А як не паспею вярнуцца ў поўдзень — пагукай мяне вечарам. Я абавязкова вярнуся вечарам. Маеш маё чэснае слова!

Паверыў певень паўліну. Зняў ён свой прыгожы строй, сам надзеў шэрыя паўлінавыя апранахі. Паўлін у разнаколерным строі зразу стаў найпрыгажэйшай птушкай. Ён быццам нарадзіўся нанова, акрыяў і адразу рушыў у дарогу.

Мінуў адзін дзень, прайшла ноч. Чакае певень — а паўліна няма дык няма. Усхваляваўся певень і як закрычыць на ўвесь панадворак:

— Ку-ка-рэ-ку!

Крычаў ён, крычаў — нічога не выкрычаў. Прычакаў ён вечара і зноў кукарэкае. А паўліна, ні дыху — ні слыху. Недзе заблукаўся ў чужым краі.

З той пары кожны дзень раніцай, у абед і вечарам певень кліча сваім ку-ка-рэ-ку паўліна, які пазычыў у яго касцюм.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

Спектакль «Як зайцы піва варылі» у выкананні дзяцей з бельскай тройкі

*Оля Асташэўская*
*І клас гімназіі ў Нарве*

## *Развітанне з зімой*

*Вось панурая зіма,*
*Адыходзіць ад нас!*
*А прыгожая вясна,*
*Завітае зноў да нас.*

*Расцвітуць каляровыя кветкі*
*У агародчыку і ў лесе.*
*Птушкі саўюць гнёздзечкі*
*На дрэвах і ў стрэсе.*
*Заспяваюць свае песні*
*Жаваранкі ў полі,*
*Пакрыюцца лісцем*
*Дрэвы тапалі.*

Знак веснавой пахаты, адмыкання зямлі, замужжа, жаночай красы.

*Мартына АНДРУШКА*
*Тыльвіца-Маёнтак,*
*ПШ у Міхалове*

## *Вясна*

*Першы дзень вясны*
*Такі радасны,*
*У гэтую пару*
*Так добра на духу.*
*Кветкі прыгожа выглядаюць,*
*Дрэвы кветкі выпускаюць,*
*Сонца грэе зямлю*
*І шчаслівыя ўсе людзі.*

Клаўдзія ГАЛІНСКАЯ
ПШ імя Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку

## Гісторыя

Аднойчы Аля паехала на экскурсію ў Лондан. Яна пайшла ў гасцініцу і заснула. Наступны дзень стаў пачаткам новага жыцця жанчыны. Калі яна пайшла ў метро, спаткала там хлопца-студэнта. Яны гулялі разам увесь дзень. Гэта было вялікае каханне. На канец дня яны пайшлі на чортава кола. Ды тут здарылася няшчасце. Кола ўпала. Яны памерлі. Іх каханне ўсё ж жыве.

# Вершы Віктара Шведа

## Заклікае рэстаран

Хлопец з дзяўчынай каханай
Праходзяць ля рэстарана.
— Ах так пахне гасцінна
Яда, — сказала дзяўчына.

— Калі паднябенне казыча
Твае рэстарана аблічча,
Тады, дарагая Марыся,
Можам яшчэ раз прайсціся.

## Колькі табе гадзікаў?

— Дарагі Валодзіку,
Колькі табе годзікаў?
— Так хочацца сказаць,
Што годзікаў мне пяць.

— Ты не вышэй, улюблёны,
Майго парасона.
— А колькі парасону год? —
Спытаў Валодзя на адход.

# Польска-беларуская крыжаванка

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 12:

Прыход, дар, лепш, баабаб, сын два, ар, дзень, дзеці, дзея, цар, від, лёд, мак, міраж. Пасаг, сыр, два, хлеб, дзед, падзея, шавец, баніцёр, Ада, труба, ар.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Наталля Петручук, Дыяна Хіліманюк, Міхась Тапалянскі** з Нарвы, **Уля Марчук** з Нараўкі, **Караліна Трусевіч** з КШ № 3 у Гайнаўцы, **Дамініка Календа, Кацярына Лаўрашук** з ПШ № 3 у Бельску-Падляшскім, **Мартына Ігнатовіч** з Шудзялава, **Юлія Жукевіч** з Бабік, **Сара Скаўронская** з ПШ № 4 у Беластоку. Віншуем!

№ 16-15

Si!
Ogród
Chiny
Stóg
Wróżka
Braciszek
Beksa
Pi
Ząb
Ił
Marzenie
Fa
Rota
Mi
Silnik
Ty
Wiosenny taniec
Język
La!
Skarb
Rój
Chińskie imię
Maślak

# Ночы і дні

Матэматык адмовіўся ад узнагароды — ад мільёна долараў, прызначаных яму за навуковыя дасягненні. Навучыўся лічыць пустыя прасторы і ведаў, чым яны насычаюцца. Гонку за грашыма назваў бязглуздзіцай.

Страшэнны боль ужо цалкам паралізаваў. Хоць ты сядзь і плач, а тут ні сесці, ні легчы. Начная цішыня разбуджае фантазію, замяняючы ложак у апакаліптычную магілу. Ці гэта ўжо пара? І боль закончыцца, і супакой настане. Варвара прыснілася такой прыгожай, быццам з іконы Рублёва. Рак з'еў яе амаль цалкам, не пакінуўшы нават доўгай, густой касы. А тут і тварык румяны, і каса палтаўская, і як заўсёды шнурок кавалераў, ад якіх не адагнацца.

— Варвара, ты тут?

— Тут, тут, ужо нідзе не спяшаюся, — гаворыць спакойна, з ласкавай усмешкай, — я тут яшчэ пабуду.

Раніцай болю быццам менш, паветра павольна ўваходзіць у лёгкія. Новы дзень, новае жыццё.

Пяшком у цэнтр гарадка, на любімыя заняткі з дзеткамі. Нельга спазніцца. Дзве суседкі на тратуары абменьваюцца местачковымі навінамі. З балючай нагой заўважаецца і чуецца нашмат больш, чым са здаровай. Вось, аказваецца, што яшчэ нестарога Толіка неўзабаве прывязуць з Амерыкі ў труне. Цікава, ці долары таксама засунуць яму пад падушку. Хаця на тым свеце мог бы імі пакарыстацца, бо тут, здаецца, не паспеў.

Побач праязджае знаёмы аўтамабіль. Гэта сяброўка вязе сваіх дзетак на заняткі. Вяртаючыся, запыняе машыну на сярэдзіне вуліцы.

— Думаю сабе, а ці гэта за цётка, такая падобная ззаду на цябе, валачэцца. Цяжка паверыць, ты ж заўсёды — фыр і паляцела.

З цэнтра гарадка ідуць, а дакладней бягуць, з царкоўнымі крыжамі і чорнымі, пахавальнымі харугвамі. Напалоханая гэтым відовішчам сяброўка вяртаецца ў машыну, каб пазбегнуць сустрэчы з нябожчыкам.

Вось і дагнаў. Каму ў цэнтр, а каму на могілкі. У любым выпадку, відавочна, надта спяшаецца ён на той свет. Бацюшка схіляе галаву на добры дзень, псаломшчыца весела, быццам у першамайскім шэсці, махае рукой. І гэта ўвесь царкоўны экіпаж — ніводнай пеўчай, толькі штатныя. Калісь белагорскі дзядзька ў вочы сказаў: „Не плацяць, не спявай. І без цябе абыдзецца". Вось і пабачылі калеку. Бог карае гэтых, што ў царкву не ходзяць. Няма тут чаго дзівіцца, але што зробіш, калі раптам расхацелася. Цікава ці хаця нехта ў гэтым натоўпе народу заплакаў па нябожчыку. Слязу раняе адна, яшчэ не старая жанчына, якая крочыць зараз за труной. Усе астатнія, мабыць, ужо выплакаліся. У цэлым пахавальным шэсці зусім не відаць пажылых, няма таксама мясцовых, нават аўтамабільныя рэгістрацыі — беластоцкія. І ўсё подбежкам ды подбежкам, быццам на жыдоўскіх, даваенных пахаванках. Сапраўдная мітусня. Супраць цячэння, з дазволенай для забудаванага абшару хуткасцю імчыцца вялікі і беззаганна чысты фургон з ініцыяламі і рэгістрацыяй турэмнай службы. Адна, другая, а за імі забруджаная паліцэйская легкавушка, мабыць, з мясцовага паста. Выпадковая прахожая са спушчанай галавой, быццам нябожчык застывае на тратуары. Калісь верылі, што хата, насупраць якой запыняешся, каб прапусціць труну, будзе наступнай, у якую яе ўнясуць.

— Нельга рухацца, калі труну нясуць, — кідае жанчына. — Гэта ж смерць выклікае. Бацюшка заўсёды ў царкве тлумачыць, а вы і так па-свойму.

Але ж каму гэта ён тлумачыць, калі цяперашняя царква як гаршчок пасля вясковага, сямейнага абеду; пустата ажно рэха нясецца. Мабыць, памінаным у час абедняў душам, але ім тлумачыць не трэба. Яны самі найлепш ведаюць.

— Павесілася, — кажа пра, аказваецца, нябожчыцу выпадковая прахожая. — Было ёй за сорак гадоў, у вёсцы жыла. Яе маці таксама павесілася. А сына прывезлі з вязніцы. Стаяў у царкве з кайданамі на руках і нагах, нават на могілкі не адпусцілі.

Забалела яшчэ больш. І як тут пазбірацца, да дзяцей выйсці...

Любімы занятак аказаўся найлепшым лякарствам. Ізноў настаў дзень.

Іаанна ЧАБАН

# Круг гісторыі


Ян Каліш

**Паміж Нетупай, Шацілямі, Саннікамі і Крушынянамі шмат высокіх узгоркаў, самае лепшае месца для правядзення вялікай расейска-нямецкай бітвы. Скрываюцца там стогадовыя сляды царскіх акопаў. Іх пачалі капаць ужо ў 1914 годзе. Бацькі Яна Каліша з Саннікаў былі тады дзяцьмі, але і ім прыйшлося ісці з лапатай у лес. Капалі ўсе, мабыць, затрывожаныя надыходзячай бітвай, якой ніколі не было.**


Сімяон Каліш у Гародні, дзе служыў у арміі і быў спартсменам (з дыпломам, светленькі)

Ян Каліш, сын Сімяона і Аляксандры, нарадзіўся дзень пасля праваслаўнага Яна Хрысціцеля, 8 ліпеня 1937 года, 19 гадоў пасля вяртання з бежанства. Цяжарную маці прывезлі з Саннікаў у крынскі шпіталь фурманкай. Першым пабачыў свет Ян, сястра Лідзія паявілася паўгадзіны пазней. Бацькі не спадзяваліся двайнят, але паўтара года пазней нарадзілі яшчэ Сяргея. Дымітр памёр, калі споўнілася яму 3 годзікі. Найстарэйшага брата звалі Мікалаем. З цэлай грамадкі ў жывых застаўся толькі Ян.

— Тады амаль у кожнай хаце памірала дзіця, — тлумачыць Ян Каліш.

Голад і хваробы — вось што чакала вярнуўшыхся з бежанства ў роднае, ужо польскае, сяло.

З Саннікаў у Расею не паехала толькі адна сям'я. Папросту далёка не ад'ехаўшы, рашылі вярнуцца дахаты.

— Царская ўправа палохала немцамі, але яны тады яшчэ гуманітарна ставіліся да ваеннапалонных ці іншаверцаў, — заўважае Ян Каліш. — З'язджаць ніхто нікога вінтоўкай не прымушаў, гэта былі прадуманыя рашэнні.

Сям'ю 14-гадовай Аляксандры — пазнейшай маці спадара Яна — вывезлі ў Цвярскую губерню. Бацька Сімяон папаў ажно ў Калугу. Іх бежанскія ўспаміны спадар Ян запамятаў з незвычайнай дакладнасцю.

Саннікі выязджалі 15 жніўня 1915 года. Бежанцы маглі забраць з сабой усё, што хацелі, але на драўляны воз пераважна закідалі адзін сундук, прывязвалі карову і запрагалі аднаго каня, таму што больш іх не мелі. Так дабіраліся ў аддаленыя на 200 км Баранавічы. Там вызначалі ім далейшую дарогу, у якую падаваліся чыгункай. Бежанцамі афіцыйна апекавалася адна з дачок цара Мікалая. Размяшчалі іх пераважна па сёлах і невялікіх мястэчках. Бежанцаў прымалі як сваіх, падтрымлівалі фінансава, давалі працу, вялікія хаты. Аднолькава ставіліся і да неправаслаўных перасяленцаў. Жылося там, адным словам, някепска. Дзеткі бежанцаў адразу пайшлі ў школу. *Скажи-ка, дядя, ведь не даром Москва, спаленная пожаром, французу отдана?..* — тымі словамі Лермантава карміў потым сваіх дзяцей бацька Сімяон.

Расеі не хапала жаўнераў і рабочай сілы. У армію ўзялі, між іншым, народжанага ў 1888 годзе Вінкенція — найстарэйшага брата Сімяона. Закончыўшы армейскія курсы, Вінкенцій стаў царскім унтэр-афіцэрам. Ранены ў франтавых баях да канца жыцця цярпеў ад парэзу рукі. З арміі перавялі яго ў адзін з маскоўскіх банкаў. Вінкенцій зараз жа сцягнуў з Калугі 15-гадовага Сімяона. Працаваў ён кур'ерам і развозіў па Маскве, найчасцей трамваем, справачную карэспандэнцыю.

— Бацька хваліўся, што вельмі добра пазнаў усе закуткі Масквы. Ой хацелася яму яшчэ раз туды паехаць, але гэтая мара ніколі не збылася.

Дзякуючы Вінкенцію ў Маскву пераехалі таксама браты Канстанцін, Павел, Аляксандр і сястра Анна, пакідаючы ў падкалужскай вёсцы бацькоў і дзвюх наймалодшых сясцёр Сафію і Антаніну. Канстанцін пайшоў служыць у царскую армію. У 1916 годзе папаў у нямецкую няволю — у лагер на мяжы з Францыяй.Там дачакаўся канца вайны, значыць лістапада 1918 года. Пасля вызвалення пераехаў у Францыю, дзе працаваў парабкам. Тужыў па родных. У 1924 годзе праз Міжземнае мора і Адэсу вярнуўся ў Саннікі. Але толькі на тры гады. Хата цесная, трацяк зямлі, есці хацелася. Маўляў, што ў нямецкай няволі жылося яму лепш, чым у незалежнай Польшчы. Працаваў у лесе. Адлажыўшы трохі грошай, у 1927 годзе з калегам уцёк у Францыю. Тры гады пазней пацягнулася за ім наймалодшая сястра Антаніна. Канстанцін, мабыць, ніколі не пашкадаваў свайго рашэння. Працаваў парабкам у багатага гаспадара, які выдаў яму сваю дачку. Новая мадам Каліш была малодшая ад свайго мужа на цэлых 19 гадоў.

Хутка прыйшоў час прымусовага развітання з царскім раем. У Расеі пачалася рэвалюцыя 1917 года. Не хапала хлеба. З Масквы за двума пудамі мукі сям'я Калішаў падавалася нават у Сібір. Маці Аляксандра ў той час пакінула Цвер і паехала за хлебам у Данбас. *Пладаносная зямля, мноства салодкіх кавуноў і іншай надзвычай смачнай садавіны і ландшафт як у «Ціхім Доне» Шолахава*, — будзе потым апавядаць сваім дзецям. Усё знішчыла грамадзянская вайна паміж белымі, чырвонымі і ўкраінскімі атаманамі. Адны пераймалі ўладу на сняданак, другія — у полудзень, а трэція — на вячэру. Трэба было ўцякаць. Сяброўка Аляксандры закахалася і засталася там назаўсёды. У 1973 годзе, прыехаўшы ў госці і параўнаўшы Данбас з Саннікамі сцвердзіла, што там жывецца лепш. Сям'я Сімяона адправілася ў родную вёску ўжо ў 1918 годзе. У Берасці былі яшчэ немцы, але зусім іх не чапляліся. Брат бацькі Аляксандр паспеў знайсці сабе масквічанку і нарадзіць дзіця. Цяжка было таксама пакідаць добрую працу. Вырашыў застацца. Апошні ліст з Расіі прыслаў у 1938 годзе. Шукалі яго, між іншым, Чырвоны крыж і пражываючыя ў СССР сваякі. Безвынікова. Аляксандр стаў, праўдападобна, ахвярай сталінскай чысткі.

Павел памёр у Маскве, не паспеўшы нават ажаніцца. Бацькі маці спадара Яна — Аляксандры — захварэлі і памерлі ў дарозе дадому. Пахавалі іх на беразе Волгі. Аляксандра засталася з малодшай сястрой, жыхаркай Кудрыч (цяпер у Рэспубліцы Беларусь, а калісь вёска Крынскага праваслаўнага прыхода) і братам, які пасяліўся ў Слоніме. Іх бацькоўская хата стаяла налева, едучы ад Крушынян. Згарэла разам з пераважаючымі па гэтым баку гумнамі. Ацалела толькі правая старана вёскі. Ні хаты, ні кароўкі, ні каня. Аляксандру прынялі на службу багатыя гаспадары з падсакольскіх Геніюшаў. Тры гады адкладвала на калаўрот, які каштаваў тады 3 мільёны марак. З Сімяонам павянчалася ў 1928 годзе.

З Янам Калішам сустрэлася я ў яго камфортнай беластоцкай кватэры. У Санніках засталася толькі пустая дача.

Іаанна ЧАБАН

# Пра менш вядомы Райск (ч. IV)

**— А што цяпер робіцца ў святліцы?**

— Раней працаваў у нас фальклорны калектыў „Згодныя макі", які ў мінулым годзе адзначыў юбілей 35-годдзя. Калектыў дзейнічаў да мінулага, 2014 года. Як мне здаецца, інструктарка не шанавала ўдзельніц калектыву, жанчын пажылых; магчыма, што ўлічваючы тое наша Войт і не прадоўжыла з ёю дамовы. Ды і нашы жанчыны не хацелі далей, адчувалі крыўду; то ж такіх жанчын трэба шанаваць, што яны, стомленыя жыццём, яшчэ хацелі выступаць. Гэта пра калектыў. Ёсць у нашай святліцы Ізба памяці, якая наводзіць на мяне прыгнечанасць. Бо ёсць там прозвішчы нашых загінулых 16 чэрвеня 1942 года, і ёсць каля тых прозвішчаў крыху здымкаў, але каля большасці толькі пустыя месцы — не найлепш гэта выглядае; дарэчы — афармлялі гэтую выстаўку вонкавыя дызайнеры. Затое тая частка Ізбы, дзе паказаны даўнейшыя прылады сельскай працы, мне падабаецца. А яшчэ, калі вярнуцца да зганага 1934 года — захаваліся дакументы з таго часу, захаваліся здымкі, але на нашай выстаўцы таго няма, бо — нельга. І тое міжваеннае мінулае так загасла. Бывала, паказвала я тую выставу наведвальнікам. Прыедзе, напрыклад, экскурсія з сярэдняй школы і не пачнеш таго расказу адразу з 1942 года, што, маўляў, прыехаў немец і так от сабе шах-барах — хто ведае, ці адны немцы толькі ў гэтым віноўныя. Хто ведае, ці тыя падзеі, што адбываліся ў 1934 годзе, не спарадзілі трагедыі, што здарылася ў нас восем гадоў пазней. І пачнеш гаварыць пра міжваенны час, а зараз тая прафесарка загалосіць, што яе вучні да такога стаўлення справы не гатовыя. І што скажаш? А наша гісторыя заблытаная, затушаваная. Ёсць яшчэ ў святліцы два памяшканні, дзе сталы стаяць. На першым паверсе ёсць кухня, умывальня, туалет ды агульная зала са сталамі і крэсламі. У той зале зладзілі мо з дзве „васемнаццаткі", хрысцін хіба не было, адну вясельную гасціну, а найбольш то памінальныя вячэры, саракавыя ды гадавыя памінкі.

**— А ці Вы помніце, як стаўлялі помнік ахвярам злачынства 1942 года?**

— Помнік спраектавалі людзі звонку. Нашы далі цэмент на агароджу. Адзін крыж агульны ад вёскі, а хто меў грошы, той паставіў ад сябе. Два ці тры гады таму паклалі чорны мармур на магілу, гэта ад Гмінай управы.

**— А калі той помнік быў пастаўлены?**

— У 1962 годзе. Я тады была гарцэркай і прысягу мы давалі перад помнікам.

**— А дазвольце, што Вас спытаю пра іншае. Пасля вайны шмат мясцовых людзей выехала ў Савецкі Саюз. Ці з Райска таксама хто выехаў?**

— Пасля вайны ніхто.

**— Яшчэ пра школу. Зараз пасля вайны навучалі ў будынку, што быў у месцы цяперашняй царквы. У 1952 годзе паставілі ў вёсцы асобны школьны будынак. Ці гэта быў той мураваны будынак, што стаіць зараз?**

— Так; тады паставілі мураваныя школы ў нас і ў Ягуштове.

**— А што цяпер у тым былым школьным будынку? Ён абсаджаны так, што нічога за агароджай і не відаць...**

— Нічога няма. Бадай у 1997 годзе ўсе школы былі падпарадкаваны самаўрадам. І годам пазней адна пані заснавала згуртаванне „Людзі добрай волі — Рай" з сядзібай у Бельску. Тая пані, якой адно дзіця бадай хварэла пухлінай, стала дзейнічаць падтрымваючы ўсё пад тое хворае дзіця. Яна атрымала наш школьны будынак і больш чым гектар поля побач за агульнавядомую залатоўку. Яна стала ладзіць розныя мерапрыемствы,





розныя фэсты, стала збіраць грошы, мела тут стварыць дом для састарэлых. Пасля нейкія майстар-класы стала тут ладзіць: камп'ютарныя, кравецкія і кулінарныя, стала сцягаць розных людзей, у тым ліку і нешчаслівых калек. Яна тут заклала алейнае ацяпленне, уставіла новыя вокны, перакрыла дах, памяняла сталярку. Брала на тых нешчаслівых людзей грошы з Управы працы... Не мне яе судзіць, але калі б я была суддзёю, то я б ёй дзевяноста дзевяць гадоў прысудзіла, як у Амерыцы. Цяжка ўявіць, чаго яна тут нарабляла. Брала пазыкі, але так хітра, што запісвала іх на жырантаў. У нас ёсць такая дзяўчына, даведзеная да адчаю. Павырабляла тым нешчаслівым банкаўскія карты, нарабіла ім дэбетаў. Адзін чалавек у выніку павесіўся. Забралі ёй за даўгі кватэру ў блоку і ніхто ў Бельску не хацеў яе прымаць на кватэру, бо ўсё брала, што пад руку пападалася. З'ехала сюды жыць. І ўнучку ўзяла з сабою, якая па вёсцы з вялікім сабакам хадзіла. Той сабака скочыў на адну жанчыну, што на роўвары ехала і яна ўпала і паламалася. Людзі сталі гаварыць, што нешта ўсярэдзіне школьнага будынка ламоча. Людзі пацікавіліся, што там дзеецца. А яна ўсё ўсярэдзіне разбамбіла, усё стала адтуль забіраць, паабрывала пліткі, што магла, тое на металалом стала вывозіць, бо хіба ўжо не мела за што жыць. Урэшце гміна пацікавілася што там дзеецца, бо калі туды, у тую нашу былую школу заглянулі, то там ужо не было нічога для інвентарызацыі, усё было разабрана, адно голыя сцены асталіся. І пасля таго сабакі нічога не прыбрала — усё пазарастала мохам. Шафёр, пабачыўшы тое, уцякаў навонкі трымаючыся за рот перад выявржэннем страўніка. Калі хто сюды прыедзе прыбіраць, то хіба ў працівагазах, да таго давяла. І гміна мае занятак, бо мусіць летам прысылаць работнікаў, каб той школьны панадворак прывесці да нейкага парадку. І так той будынак занепадае.

**— А што пасля з тою жанчынай сталася?**

— Адкрыла яна на рынку нейкі рэстаранчык, які назвала „Rajski kęs". Панабірала ўсяго на рынку; для прыкладу, калі хто прадаваў боты, прыходзіла, брала быццам для прымеркі, у сваю канторку па-суседску; і тыя боты ўжо прападалі назаўсёды. Ну то яе прымусілі адысці з таго бару, але адыходзячы той бар пабіла, шыбы пабіла, усё... Нейкі час трымала нужнік на рынку, але і там ужо яе няма. І куды яна дзелася — невядома. Ходзяць чуткі, што ў нейкай хаце ў Бельску жыве, дзе ні вады, ні электрычнасці, няма нічога.

**— Яшчэ пра царкву: прывезлі яе ў 1963 годзе?**

— Пачалі прывозіць у 1962 годзе. Іканастас быў у нашай ранейшай часовай царкоўцы. А той барак моладзь перанесла на іншае месца каля плябані і збіла такую „патупайку", дзе можна было пагуляць, пакуль не паставілі цяперашняй святліцы. А пасля з таго барака бацюшка паставіў хлеўчык.

**— Каля царквы ёсць вулачка, а пры ёй намагільнік. Чаму там?**

— Чалавека бадай забілі як вёска гарэла, але ўжо не пахавалі ў брацкай магіле, толькі на месцы.

Столькі спадарыня Ірэна Цішук. А мяне карціць дакінуць яшчэ пра трагічны лёс, але ўжо не Райска, а тае мясцовасці, адкуль у Райск была прывезена цяперашняя драўляная царква. Вікіпедыя: „Podczas ewakuacji ludności polskiej z ich siedzib, doszło w dniu 1 kwietnia 1944 w Poturzynie do masowej zbrodni. We wczesnych godzinach rannych ukraińscy żołnierze z 14 Dywizji Grenadierów SS współdziałając z pododdziałem UPA, wtargnęli do Poturzyna, gdzie schroniła się większa grupa uchodźców z terenu gminy Dołhobyczów i Kryłów. Napastnicy zamordowali 162 osoby. Około 1947, podczas Akcji „Wisła", wysiedlono wszystkich prawosławnych mieszkańców. Zabytkowa cerkiew z 1912 została w 1962 przetransportowana do odległej o 300 km wsi Rajsk".

Вёска Патурын знаходзіцца на самым поўдні Холмшчыны, вёска Райск — пасярэдзіне Падляшша. У нашых царквах часта чуюцца маленні за святых холмскіх і падляшскіх. Магчыма, што Усявышні ўспрымае тыя маленні больш агульна — і за ахвяры Райска, і за ахвяры Патурына; без аглядкі на іх сакральны ранг ці абраднасць...

Аляксандр ВЯРБІЦКІ




## *Прысвячэнне да 90-годдзя*

*Віктар Швед — беластоцкі паэт,*
*але сэрцам прырос да Гародні.*
*Тут яго мікракосм і Сусвет,*
*асяродак, прыемны і родны.*

*Вось і сёння да нас завітаў,*
*элегантны, прыгожы і просты.*
*Тут знаёмцаў, сяброў напаткаў...*
*Ці дасі Вам, спадар, дзевяноста?!*

*Зззяюць вочы і свеціцца твар,*
*вершы грэюць спадзевы і душы...*
*Нават сонейка выйшла з-за хмар*
*і ўжо радасна лужыны сушыць.*

*Вам за мову паклон да зямлі,*
*бо пакуль мы яе забывалі,*
*Вы не толькі яе берaглі,*
*Вы жылі з ёю, нас ратавалі.*

*Там — няхай і за бліжняй мяжой —*
*не здаліся жыццёвым хаўрусам,*
*Вам не стала радзіма чужой:*
*як былі, так і ёсць беларусам.*

*Да стагоддзя — дзясятак гадкоў,*
*і яны праляцяць вельмі скора.*
*І Гароднія сустрэне Вас зноў,*
*і няхай дасягае любоў*
*аж да Вашае вёсачкі Мора.*

*Хай ніколі Ваш дом не кране*
*ні бяда, ні ліхая гадзіна.*
*Беларусь яшчэ Вас прыгарне*
*як паэта і вернага сына!*

*Бо адметней не можа быць след —*
*сёння кожны са мной будзе згодны:*
*Віктар Швед — беларускі паэт,*
*я б сказала дакладней — народны.*

***23.03.2015 г.***
***Людміла КЕБІЧ***

## *Васількі*

*Бегла на рынак па агурочкі,*
*а на рагу прадаюць васілёчкі.*
*Вочы заплюшчыла — сінія гэткія,*
*жытнія, цёплыя,*
*з пахам палеткавым.*

*Міма прабегчы ніяк немагчыма,*
*мігам забыла аб першаснай мэце.*
*Неба Айчыны, вочы Максіма —*
*самыя сінія, вабныя ў свеце.*

*Дайце хутчэй мне*
*нязгасныя кветкі*
*і для сябе, і для Алы-паэткі,*
*і, безумоўна, для Віктара Шведа...*
*Ах, агуркоў не купіла? — Кой беды!*

*Хай азіраюцца людзі прыветна,*
*дзівяцца сонечным блікам*
*на твары.*
*Радасна ў сэрцы, узнёсла і светла:*
*ах, неўвядальныя сінія мары!*

***З павагай***
***і вялікай прывязанасцю***
***Людміла КЕБІЧ***

# Беларускі пясняр Беласточчыны

Вёска Мора на Беласточчыне — гэта радзіма старэйшага беларускага паэта Віктара Шведа, якому 23 сакавіка споўнілася 90 гадоў з дня нараджэння. Пяць гадоў таму мы трымалі ў руках яго прыгожую і шчырую кнігу вершаў „Адплываем з Мора". Ужо тады паэт пісаў, што амаль усе яго сваякі з роднай вёскі Мора адплылі ў іншы свет, а цяпер наступае яго чарга. Я напісаў артыкул пра той зборнік вершаў і назваў яго „Адплываць з Мора яшчэ рана". Ды куды адплываць, калі наперадзе шмат спраў, планаў, літаратурных задумак і адкрыццяў. Эрнэст Хэмінгуэй некалі напісаў празаічны твор „Стары чалавек і мора". Калі б сёння жыў прадзядуля Хэмінгуэй і калі б ён сваё апавяданне прысвяціў Віктару Шведу, то ён яго назваў бы не інакш, як „Малады чалавек і Мора". Бо Віктар Швед, нягледзячы на свае дзевяць дзясяткаў гадоў, заўсёды малады, прыгожы, шчаслівы, натхнёны, што нам, маладзейшым літаратарам, застаецца толькі яму пазайздросціць, браць з яго прыклад, вучыцца ў яго літаратуры і аптымізму. А роднае яму Мора па-ранейшаму натхняе яго на новыя творы, вяртае ў маленства і юнацтва, якія не даюць яму старэць і падаць духам. Вось такі ён, Віктар Швед.

А яшчэ ён вельмі шчыры беларус. Пра гэта паэт адкрыта і публічна сказаў ажно ў 1957 годзе, калі ў беларускім тыднёвіку „Ніва" апублікаваў свой першы верш „Я — беларус". А потым пра тое, што ён — беларус, што мова наша беларуская, што мы павінны гэтым ганарыцца — паэт піша ў кожным сваім паэтычным зборніку. Нацыянальная тэма скразной лініяй праходзіць праз усю творчасць Віктара Швед:

Мы жыць не хочам у няволі.
І беларускай роднай мовы
Не адцураемся ніколі.
Памерці за яе гатовы...

Віктар Швед — пясняр беларускай вёскі на Беласточчыне. Сваёй роднай вёсцы Мора ён прысвяціў дзясяткі паэтычных радкоў, шмат настальгічных вершаў па вясковым маленстве і юнацтве, па тых гадах, калі беларуская вёска сапраўды была вялікай, гамамлівай, таленавітай, народнай і дружнай. Толькі сапраўдны паэт можа так апісаць вёску свайго маленства, як гэта рабіў неадноўчы Віктар Швед.

Віктар Швед са сваёй мілай спадарыняй Валянцінай вельмі шчырыя, адкрытыя і адказныя ў любой справе людзі. З імі адчуваеш аптымізм, надзею і веру ў самае светлае і добрае. Аптымізм уласцівы і паэзіі Віктара Шведа. Не бяздумны, як скажам у вядомага героя вальтэраўскай аповесці „Кандыд" Панглоса з яго філасофіяй „усё, што на свеце ні робіцца — на лепшае", а жыццёва дзейсны. І таму нам блізкі і зразумелы клопат паэта пра заўтрашні дзень Беларусі, роднай мовы, беларусаў, калі ён піша:

Таму сэрца маё суму поўнае,
Чаму так у нас бесталкова?
Чаму Беларусь рускамоўная,
Калі маем уласную мову?..

Дабрата, шчырасць, інтэлігентнасць духу — вось тыя рысы, якія вызначаюць сёння характар так званага лірычнага героя Віктара Шведа. Гэтыя рысы прысутнічаюць у зборніках вершаў „Жыццёвыя сцежкі" (1967), „Дзяцінства прыстань" (1975), „Дружба" (1976), „Мая зялёная Зубровія" (1990), „Родны схоў" (1991), „**Wiersze wybrane" (1997),** „Выбраныя вершы" (2000), „**Lata wiatr skrzydlaty" (2000),** „Мае Айчыны" (2003), „Адплываем з Мора" (2010) і ў іншых. Віктар Швед, і я заўсёды пра гэта казаў і кажу, не мудрагеліць у паэзіі, не філасофствуе над праблемамі і чалавечым жыццём наогул, а таксама ў напісанні і пабудове саміх вершаў. Ён заўсёды быў і застаецца прыхільнікам традыцыйнай паэзіі.

Чытаючы вершы Віктара Шведа, адчуваеш жывую душу чалавека, яго імкненне сказаць сваё запаветнае. Яго вершы абуджаюць думку і пачуццё. Паэтычны свет беларускага паэта з Беластока — гэта свет сціпласці, стрыманых пачуццяў і замілавання няякідкай прыгажосцю жыцця. Паэт — у лепшых і найбольш характэрных для яго творах — настройвае нас на хвалю нейкай асаблівай спагадлівасці, даверлівай шчырасці. З ім, з яго лірычным героем прыемна быць побач: радавацца жыццю і перажываць яго неўладкаванасць, верыць у шчасце, у будучыню, смуткаваць аб праляцеўшай маладосці і трывожыцца за будучыню не толькі Беларусі, а ўсяго свету, арганічна і проста быць сваім сярод людзей, сваім і пры нялёгкім успаміне, і ў хвіліну весялосці.

Шмат вершаў Віктар Швед прысвяціў сваім землякам, сябрам, знакамітым беларусам, якія жывуць з ім побач і якіх даўно няма. Многіх з іх ён асабіста ведаў, сустракаўся, сябраваў. Праз яго паэтычныя радкі праходзяць такія асобы, як прафесар Васіль Белазаковіч, Васіль Быкаў. Кастусь Майсеня, Ада Чачуга, Яўген Міклашэўскі і дзясяткі іншых. Ён напісаў і апублікаваў шэраг артыкулаў-успамінаў пра тых людзей, якіх ведаў у Польшчы, Беларусі і ў іншых краінах свету.

Віктар Швед у сваіх вершах заўсёды пазтызуе пагодненасць сэрцаў, узаемны давер і рашуча адмаўляе няшчырасць і здраду. Без суладдзя з дабратой, чалавечнасцю для яго немагчымы свет, разбураюцца сувязі не толькі паміж людзьмі, але і паміж чалавекам і прыродай:

Калі цябе не любяць людзі,
Дык ты нікога не віні.
Адмоўна аб табе ўсе судзяць,
Бо ты пазбаўлен дабрыні.

Шмат паэтычных радкоў Віктар Швед прысвяціў дзецям. З друку выйшлі яго кнігі вершаў „Вясёлка" (1991), „Вершы Натальцы" (1998), „Смяшынкі" (2009) і іншыя. Асабліва папулярныя на Беласточчыне яго вершы-смяшынкі, якія аўтар пастаянна друкуе на старонках беларускага тыднёвіка „Ніва". Як сказала неяк Тэрэза Занеўская, у смяшынках Віктара Шведа „быццам у люстры адбіваюцца з'явы штодзённага жыцця і цэлае багацце сітуацый, якое яно нясе з сабой". Героямі вершаўсмяшынак паэта з'яўляюцца дзеці, дарослыя, жывёлы, з'явы прыроды — усе разам яны захапляюць чытачоў сваім гумарам і настроем. Вось адзін з такіх вершаў-смяшынак:

Пытае мама сынка Колю:
— Як адчуваеш сябе ў школе?
Адказвае сыночак маці:
— Быццам у камісарыяце:
Там, мая мама дарагая,
Усё пытаюць і пытаюць.
Пытаюць часта, надта многа...
А я не ведаю нічога.

Сёння пра творчасць юбіляра можна разважаць доўга. Бо за 90 гадоў пражыта, напісана і надрукавана вельмі шмат. Паэт заўсёды даражыў і даражыць творчай радасцю, верыў і верыць у беларускае слова, яго вялікія магчымасці і дзейсную сілу. Таму ён і бадзёрым сустрэў свой вялікі ЮБІЛЕЙ. З чым яго шчыра і віншую!

**Сяргей ЧЫГРЫН**

# www.krainamaray.com




У сакавіку ў інтэрнэце з'явілася новая краіна, якая, у адрозненні тых, што існуюць у рэальнасці, цалкам беларускамоўная. Такая акалічнасць адразу выклікае ўсмешку — у адных сумную, у другіх — скептычную. Для першых такая краіна можа быць толькі ў марах, а другія, кшталту цяперашняга беларускага правіцеля Аляксандра Лукашэнкі, маюць цвёрдае перакананне, што беларуская мова ў параўнанні, напрыклад, з рускай ці англійскай — бедная і на ёй немагчыма выказаць нічога велічнага, не кажучы ўжо аб паўнацэнным выкарыстанні ў жыцці цэлай дзяржавы.

Таму краіна, якая паўстала ў віртуальнасці, мае сваімі жыхарамі першых, якія мрояць аб лепшым для беларускай мовы. І з гэтага назва яе — „Краіна мараў", што насамрэч з'яўляецца своеасаблівым блогам, сайтам і сацыяльнай сеткай.

Знаходзіцца „Краіна мараў" у інтэрнэце па адрасе **www.krainamaray.com**. Калі цікавы карыстальнік зазірне на даны сайт, то перад яго вачыма адкрыецца даволі стракатае і ў той жа час прывабнае выяўленне, якое хочацца прагледзець больш уважліва.

Лепей за ўсё пачаць знаёмства з „Краінай мараў" з рубрыкі пра яе гісторыю, выйсце на якую месціцца ўверсе цэлага выяўлення. Адтуль мы даведаемся, што заснавальнікам новай віртуальнай краіны з'яўляецца былы футбаліст Юрый Юрчанка. „Краіна Мараў" — краіна, у якой мы самі ажыццяўляем свае мары. „Краіна Мараў" — краіна моцных, пасіяхових, мэтанакіраваных і неабыякавых людзей; людзей, якія хочуць развівацца і кожны дзень імкнуцца быць лепей, чым былі ўчора; людзей, якія паважаюць сваю гісторыю і гатовы пісаць яе новыя старонкі. Наша місія — стварыць умовы для развіцця асобы, грамадства і мовы", — распавядае заснавальнік і ўладальнік „Краіны мараў".

Дарэчы, Юрый Юрчанка раней ужо адзначыўся беларускамоўнай актыўнасцю ў інтэрнэце і стварэннем сайта „Крок наперад", які быў конкурсам відэароліказ. Пра яго „Ніва" пісала 24 лістапада 2013 года. «Я заўсёды цікавіўся мовай, нават яшчэ калі прафесійна займаўся спортам. Цяпер гэтая ідэя не дае мне спакойна сядзець на месцы. Першы праект, „Крок наперад" быў конкурсам відэаролікаў, які лагічна завяршыўся абвяшчэннем пераможцаў. Але мне захацелася далей развівацца ў гэтым кірунку. Праект „Краіна мараў" не абмежаваны ў часе, тут важны проста працэс удзелу ў ім», — цытуе Юрася Юрчанку Радыё Свабода.

Паколькі сайт ад пачатку быў прыдуманы як інтэрактыўны і мультымедыйны, то на ім ужо з'явілася і свая тэлебачанне, дакладней, першы відэаролік, які, магчыма, стане першай тэлецаглінкай. Ён прысвечаны беларускім назвам жаночага адзення, што даволі дзіўна і падаецца нейкім фетышызмам. Але начальніку краіны не запярэчыш — ён сам сабе галава і ўлада.

Нягледзячы на некаторыя дзівосы Юрыя Юрчанкі, нельга не пагадзіцца, што ідэалогія „Краіны мараў" больш натуральная і грунтоўная, чым ідэалогія беларускай дзяржавы, якую беспаспяхова спрабуюць насадзіць былыя камуністычныя чыноўнікі ў галовы маласвядомых ці зусім несвядомых беларусаў. „Нас пачнуць пазнаваць і паважаць тады, калі ў адказ на пытанне «Адкуль ты?», мы не будзем хаваць позірк і нешта невыразна шаптаць, а, расправіўшы плечы, гучна і з гонарам скажам: «Я — беларус!» — піша Юрчанка ў артыкуле „Пачаць з сябе", што пакуль самотна месціцца ў рубрыцы „Натхненне".

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара

Аўтар славутага раманса

# 130 гадоў з дня нараджэння Сымона Рак-Міхайлоўскага



Выдатны беларускі дзеяч Сымон Рак-Міхайлоўскі нарадзіўся 14 красавіка 1885 г. у вёсцы Максімаўка (тагачасны Вялейскі павет, цяпер Маладзечанскі раён Мінскай вобласці). У нашай гісторыі ён вядомы як публіцыст, рэдактар, паэт, грамадска-палітычны дзеяч — арганізатар і сябра ЦК Беларускай сялянска-работніцкай грамады, Беларускай народнай рады.

У 1900-1904 гг. Міхайлоўскі вучыўся ў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі, потым настаўнічаў у тэй краі. У час рэвалюцыі 1905-1907 гг. быў выбраны сялянамі хадаком у Дзяржаўную думу. За распаўсюд сацыял-дэмакратычнай літаратуры зняволены на 3 месяцы ў Вялейцы, потым змушаны з'ехаць у Крым. У 1912 г. у Феадосіі скончыў педагагічны інстытут. Пасля вярнуўся на радзіму, дзе пачаў арганізоўваць беларускія школы. Стаў сябрам Беларускай сацыялістычнай грамады.

У 1914 г. Рак-Міхайлоўскі быў мабілізаваны ў расейскае войска, ваяваў на Румынскім фронце. Пачаў публікавацца ў 1915 г. (артыкул «З думак у паходзе» ў «Нашай ніве»). Пасля лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. у Мінску ўзначаліў Цэнтральную вайсковую раду. З 1918 г. — сябра Рады БНР. У 1918-1919 гг. — сябра Беларускай вайсковай камісіі. У 1918-1920 гг. жыў у Гродне, працаваў у беларускай гімназіі. Друкавацца як публіцыст пачаў з 1919 г. Пісаў пад псеўданімамі Баўтрычонак, Беларус, Бутрым Каляда, Сымон Міхалкаў, Сымон Рак.

У 1920-1922 гг. быў дырэктарам Беларускай настаўніцкай семінарыі ў Барунах. Пра гэта сведчыць і адмысловая шыльда на абшарпаных мурах колішняга барунскага базыльянскага кляштара. Адначасна з восені 1920 г. — настаўнік Віленскай беларускай гімназіі. У 1922 г. абраны дэпутатам сейма ІІ Рэчы Паспалітай. З 1923 г. — сябра Цэнтральнай школьнай рады (з 1926 г. — Галоўнай управы) ТБШ. З 1925 г. — намеснік старшыні ЦК БСРГ. З 1926 г. — сябра КПЗБ. Рэдактар «Бюлетэня пасольскага клуба БСРГ», сябра Беларускага выдавецкага таварыства ў Вільні.

Рак-Міхайлоўскі быў арыштаваны польскімі ўладамі па справе БСРГ у студзені 1927 г., праз некалькі месяцаў віленскім акруговым судом на «працэсе 56-ці» асуджаны на 12 гадоў турмы. Паводле рашэння апеляцыйнага суда вызвалены ў 1930 г. Увайшоў у склад камітэта «Змаганне». З-за пагрозы новага арышту ў кастрычніку 1930 г. перабраўся ў Мінск. Але трапіў па сутнасці з агню ў полымя. З лютага 1931 г. году і да арышту працаваў дырэктарам Беларускага дзяржаўнага музея. Арыштаваны ДПУ БССР 16 жніўня 1933 г. у Мінску па справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра». Рашэннем судовай калегіі АДПУ СССР ад 9 студзеня 1934 г. як «арганізатар і кіраўнік контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» прыгавораны да расстрэлу; прысуд заменены на 10 гадоў савецкага канцлагера. Адпраўлены на Салаўкі, але ў верасні 1937 г. этапаваны ў Мінск; 14 лістапада 1938 г. «асобай тройкай» НКУС БССР прыгавораны да расстрэлу. Расстраляны 27 лістапада 1938 г.

Рэабілітаваны ваенным трыбуналам БВА ў 1956 г. У Маладзечне імем Сымона Рак-Міхайлоўскага названа вуліца. Дадам, што менавіта Міхайлоўскі напісаў музыку да раманса на словы Максіма Багдановіча «Зорка Венера». Але з-за таго, што Рак-Міхайлоўскі быў рэпрэсаваны, аўтарства раманса ў даведкавай літаратуры падавалася народным, а пасля выкарыстання музыкі ў аднайменнай оперы аўтарам памылкова лічылі Юрыя Семяняку.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# ДЗЕНЬ ВОЛІ ў Трыгарадзе

— Ад пятнаццаці гадоў з нагоды святкавання Дня Волі спатыкаемся пры магіле Лукаша Дзекуць-Малея, стваральніка, між іншым, Беларускай Народнай Рэспублікі, абвяшчэнне якой адбылося 25 сакавіка 1918 г., заслужанага для беларускай справы дзеяча. Ад некалькіх гадоў сустракаемся таксама пры помніку Янку Купалу ў Гданьску, — сказала старшыня БКТ «Хатка» **Лена Глагоўская**, калі прывітала ўсіх удзельнікаў сустрэчы, прымеркаванай да 97 угодкаў абвяшчэння БНР 28 сакавіка г.г. — Стараемся, тут — далёка ад бацькаўшчыны — памятаць пра ўгодкі, каб проста ўшанаваць памяць тых усіх беларускіх палітычных рамантыкаў, якім марылася вольнасць і незалежнасць беларускага народа ў сваёй дзяржаве Беларусі, як і мець надзею што калісь здзейсняцца іх мары.

Пра Лукаша Дзекуць-Малея не забываюць баптысты са збора ў Гданьску. Памяць ушанавала сакратар збору баптыстаў **Аляксандра Кісель**. Вянкі на магіле і пры помніку Янку Купалу ад Беларускага культурнага таварыства „Хатка", беларускіх жыхароў Трыгарада, беларускіх студэнтаў, якія вучацца па праграме Каліноўскага ў Гданьскім універсітэце і іншых вучэльнях Трыгарада ўсклалі ўдзельнікі ўрачыстасці.

Святкаванне ўгодкаў працягнулася ў клубе «Хаткі» ў Сопаце па вуліцы 3 Мая. Сустрэча пачалася спяваннем гімнаў «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» і «Магутны Божа». Сустрэчу вяла Лена Глагоўская. Прыпомніла яна гістарычныя ўмовы абвяшчэння незалежнасці БНР і зачытала віншаванні ад Прэзідыума Рады Беларускае Народнае Рэспублікі і яе старшыні Івонкі Сурілы, Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», Галоўнай управы Беларуска-Амерыканскага задзіночання з Нью-Йорка і ад Мацея Канапацкага, які знаходзіцца ў доме апекі.

Пра складаны беларускі лёс у пераважнай большасці маладым удзельнікам спаткання распавялі Чэслаў і Анна Мекіны. Для маладых аповесць сужонства Мекінаў гэта далёкая мінуўшчына. Пані Аня, як з пашанай мы яе называем, з мамай і двума братамі (бацька быў расстраляны гітлераўцамі ў 1942 г.) у 1944 годзе выехала з Майдана каля Міхалова, што на Беласточчыне, на Гродзеншчыну. Выехалі, бо, як сказалі рускія, для беларусаў тут няма месца: або жыццё — выезд, або смерць, калі застанешся. Выбралі жыццё. Чэслаў Мекін нарадзіўся ў Стасіне Ашмянскага павета.

— Я Стасіна не памятаю, — кажа Чэслаў. — Цяпер такой вёскі на Беларусі няма.

Пан Чэслаў пазнаёміўся з Аннай у маі 1956 года, і па трох месяцах знаёмства пажаніліся. Чаму так хутка?

— Чэслаў не хацеў сам ехаць на працу, дзесьці над Волгу, — кажа пані Аня, — куды атрымаў так званы, і нам тут вядомы, «наказ працы».

Бачыце, як калісь было з працай — прымушалі працаваць, не тое, што цяпер.

— Мы жылі на Беларусі, але школа была расійская, служба ў савецкай арміі, усё па-руску, праца дзесьці ў расійскай прасторы — так выглядала Беларусь у нашым лёсе. Заўсёды, — кажа Чэслаў, — я марыў жыць у Польшчы, а Аня марыла вярнуцца на Беласточчыну.

Пасля доўгіх стараннях пані Аня вярнулася, а пан Чэслаў прыехаў за ёю. Было гэта ў 1967 годзе. На пачатку жылі ў Калабжэгу, а потым у Гданьску. Цяпер яны, беларусы, спатыкаюцца з іншымі беларусамі ў беларускай «Хатцы». І каб далей так шчасліва было, як было на працягу 59 гадоў іх супольнага жыцця.

Жыве Беларусь!

**М. К.**

## Міжнародны пагранпераход Полаўцы — Пяшчатка

Пагранпераход Полаўцы — Пяшчатка пачаў працаваць з 1993 года. Займаў плошчу 650 квадратных метраў. Пашпартны і мытны кантролі праходзілі на беларускім баку. Пасля ўваходу Польшчы ў Шэнгенскую зону кантроль перанеслі на польскі бок. Тадышнія ўмовы дазвалялі прапускаць 500 аўтамабіляў у суткі ў абодва бакі. У 2007 годзе ўзнікла канцэпцыя разбудовы перахода. Мясцовы самаўрад пачаў хадайнічаць за змену статусу з двухбаковага на міжнародны. У стратэгіі прадугледжвалася разбудова інфраструктуры на абшары трынаццаці гектараў, з дапушчальнай сутачнай прапускной магчымасцю па 2000 легкавых і 200 грузавых (да 7,5 тоны) аўтамабіляў ды 50 аўтобусаў у абодва бакі. На інвестыцыю спатрэбіцца 178 мільёнаў злотых, прытым 92 млн. паступілі з дзяржаўнага бюджэту ды 86 млн. — з Праграмы трансгранічнага супрацоўніцтва Польшча-Беларусь-Украіна і Праграмы Швейцарска-Польскага супрацоўніцтва. Працы праходзілі паралельна па абодвух баках граніцы. Завяршэнне інвестыцыі прадугледжваецца на верасень гэтага года.

З 1 красавіка г.г., па ўзаемнай дамове, пачаўся пашыраны мытны кантроль у Полаўцах. Пагранпераход атрымаў статус міжнароднага. Гэта абазначае, што мяжу могуць перасякаць не толькі палякі і беларусы, але і грамадзяне еўрасаюзных краін ды ўсяго свету.

Урачыстую цырымонію пад'ёму пагранічнага шлагбаўма здзейсніў падляшскі ваявода Анджэй Меер у суправаджэнні дырэктара Мытнай палаты Міраслава Сянкевіча, каменданта Падляшскага аддзялення Гранічнай аховы Анджэя Рытвінскага, намесніцы дырэктара Аддзялення інфраструктуры Ваяводскай управы Евы Стаховіч і войта Чаромхоўскай гміны Міхала Врублеўскага. Госці пазнаёміліся з тэхналогіяй мытнага кантролю ў міжнароднай сістэме, удзельнічалі ў дэманстрацыі суперсучаснай рэнтгенаўскай установкі для сканавання аўтафураў. Урачыстасць завяршылася паказам умеласцей сабак дрэсіраваных для выяўлення кантрабанды.

Адкрыццё міжнароднага пагранперахода ў Полаўцах гэта важная падзея для чаромхаўскай грамадскасці, якая безумоўна паўплывае на дадатковыя месцы працы як для мундзірных службаў, так і для мясцовага насельніцтва. Для турыстаў гэта безумоўна палегчыць афармленне неабходных дакументаў пры перасячэнні мяжы ды зэканоміць час падарожнікам. А гэта лічыцца.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Адгаданка

1. пярэднік, які надзяваюць дзеля засцеражэння асноўнай вопраткі ад забруджання, 2. вулей у дупле, 3. адзінка частаты перыядычнага току, 4. выражэнне весялосці, ад якога можна качацца і надрываць жываты, 5. феадальная асоба залежная ад сюзерэна, 6. порт між Парыжам і Гаўрам, 7. металічны шпень, які забіваецца ў шпалу для прымацавання да яе рэйкі, асабліва ў цэнтральнай частцы... Іспаніі, 8. лічбавая ацэнка поспехаў у навуцы або спорце, 9. не вер каню ў дарозе а ёй дома, 10. светлая частка сутак, 11. дзяржава з Порт-о-Прэнс, 12. посная партнёрка серады.

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 2 | | | | | 3 | | 4 |
| | | 5 | | | | | | | | | |
| | | | | | | | 6 | | 7 | | |
| | | | | | 8 | | | | | | |
| 9 | | | 10 | 11 | 12 | | | | | | |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 13 нумара**

Войт, госць, дзіва, зяць, Леў, савет, сель, сюіта, хет.

Рашэнне: **Хто людзей весяліць, за таго ўвесь свет стаіць**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Міхалу Байко** з Беластока.

# 19.04 — 25.04

**(22.03. — 20.04.)** 19-23.04. час на бравурныя дзеянні. Будзеш моцны, удачлівы, рашучы. Дасі сабе рады з кожным выклікам! Высветліш нялёгкія кампанейскія справы. Вельмі пільнуйся ад злодзеяў, добра хавай кашалёк. На гарызонце паявіцца хтосьці, хто адыграе ў тваім жыцці важную ролю. Пасля 20.04. могуць турбаваць цябе нейкія запальныя станы, болі, пільнуй свае ныркі, больш пі.

**(21.04. — 21.05.)** 18-21.04. не давярай сваёй інтуіцыі, бо твае прадчуванні могуць цябе падвесці; асцярожна падыходзь таксама да ўсялякіх абяцанняў; застануцца з табою сапраўдныя сябры. 19-23.04. калі будзеш раздражнены — не дыскутуй! 20-24.04. будзеш цешыцца жыццём. Паявяцца новыя магчымасці, пашчасціцца і ў фінансах.

**(22.05. — 22.06.)** Слухай партнёра, бо сітуацыя можа абярнуцца супраць цябе і горка пашкадуеш. 19-23.04. хоць добры час на вучобу, могуць быць цяжкасці ў выкарыстанні новых ведаў. Папраў сваю дыету, адмоўся ад надта тлустых і традыцыйных страў. Апошняя дэкада красавіка — ідэальны час на візіты ў дантыста і на аперацыі; раны хутка загояцца, неўзабаве паправішся.

**(23.06. — 23.07.)** 19-24.04. варта папрацаваць над лучнасцю ў сваёй пары. Лягчэй дасягнуць кампраміс, ажыццявіць новыя прынцыпы быцця разам. Памятай, каб не трактаваць такой сувязі як гандлёвай здзелкі. 19-23.04. разлічвай на падтрымку сяброў у цяжкай і прыкрай сітуацыі. 24-25.04. — нядобры час на супрацоўніцтва з новымі знаёмымі. Не рызыкуй з працай, не абмінай важных падказак і асцярог аб пагрозах.

**(24.07. — 23.08.)** 19.04. — плануй будучыню, вандруй. 18-22.04. будзеш творча падыходзіць да новых выклікаў і абавязкаў. Адвагай і смеласцю пераможаш ворагаў. 20.04. не рызыкуй, бо кантузія з сёння будзе даваць знак аб сабе гадамі! Калі чакаеш вялікага кахання — 20-24.04. пазнаёмішся з кімсьці каштоўным.

**(24.08. — 23.09.)** 18-21.04. справішся з найцяжэйшымі выклікамі. Здабудзеш каштоўныя інфармацыі. Будзеш ведаць як міла правесці час удваіх. На сямейных імпрэзах будзеш каралём! Энергіі хопіць на ўсё, а калі не, дык ніхто пра гэта не даведаецца. На працы магчымыя цяжкасці, але не вагайся папрасіць дапамогі. І будуць немалыя грошы ці каштоўны падарунак.

**(24.09. — 23.10.)** 20.04. атрымаеш аграмадны прыліў энергіі, энтузіязму і запалу. Болі таксама хутка мінуць. 20-24.04. будзеш адчуваць сябе здзейсненым, будуць табою захапляцца. Пераканаешся, што з некаторымі людзьмі спалучае цябе больш чым ты спадзяваўся. 18-21.04. цяжка будзе табе адрозніць праўду ад маны. З 24.04. будзеш проста ззяць і з'ядноўваць сімпатыю атачэння. Не адкладвай нічога на пасля, але не бярыся за заданні, якія цябе палохаюць.

**(24.10. — 22.11.)** 19-23.04. — цяпер кожнае капіталаўкладанне прынясе табе вельмі вялікія прыбыткі! 20-24.04. будзеш быстры і інтэлігентны. Але не перавялічвай спраў нявартых увагі, ды не ігнаруй важных. Даведаешся аб справах, у якія цяжка будзе табе паверыць, а з-за іх будуць турботы. Пашукай дапамогі ў даверанай старэйшай асобы; усё ўдасца высветліць. Пачні не вельмі вычэрпваючыя фізічныя практыкаванні. 20.04. пачынаецца найлепшы час на ўсялякія медычныя працэдуры — аперацыі, інвазійныя абследаванні, лячэнне зубоў — усё пойдзе прыпяваючы.

**(23.11. — 22.12.)** Ахвотай дзеяння заімпануеш усім. У пары час на сур'ёзныя рашэнні. Пастаў на вучобу і школу — веды самі ўвойдуць у галаву. 17-20.04. старайся не спрачацца ў справах, якія самі вырашацца. 19-23.04. можаш зрабіць памылку; не прызнавайся!

**(23.12. — 20.01.)** 18-21.04. адкрыюцца перад табою дзверы да кар'еры. Добры момант на знаёмства з адпаведнымі супрацоўнікамі, наладжванне кантрактаў. Будзеш майстрам негацыяцыі. Можаш разглядзецца за новай крыніцай даходу, не бойся рызыкі. Зрэалізуеш мару!

**(21.01. — 19.02.)** Узрасце тэмпература пачуццяў. Вольныя Вадалеі, трымайце вочы вакол галавы! Лепшая форма і настрой. Пачні новы спорт, схадзі на масаж. Прасачы свае фінансы, адразу паправяцца. Але з 23.04. можаш камусьці падпасці, пільнуйся.

**(20.02. — 21.03.)** 18-21.04. можа трэба будзе змяніць планы. Рыба-сінгл няхай адкрыецца на людзей, можа знайсці трывалае і моцнае каханне. Не вары як для сотні асоб, не прыбірай аж да ўпаду, выберыся лепш кудысьці. Прыйдуць неспадзяваныя грошы. Правер працу сэрца, не адкладвай візіту ў доктара.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł, roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1300 egz.

# (з гісторыі паўстання 1863-1864 гг.)

# Узлёт і падзенне даносчыка

**Напярэдадні новага 1863 г. земскі ісправунік Саколкі атрымаў паведамленне пра распаўсюджванне ў вёсцы Войнаўцы Мінкавіцкага сельскага таварыства „каких-то враждебных правительству прокламаций”, куды вымушаны быў накіравацца 31 снежня 1862 г. Па прыездзе на месца ён атрымаў ад мясцовага жыхара Івана Рабічкі два экземпляры баявога лістка, якім аказаўся пяты нумар „Мужыцкай праўды”, з намовай да сялян не даваць рэкрутаў у расійскае войска. Аднак гэтым справа не абмежавалася: 3 студзеня 1863 г. падчас суда Рабічка паведаміў, што ў вёсцы Войнаўцы дзейнічае цэлая таемная арганізацыя па падрыхтоўцы паўстання.**

Навіну неадкладна накіравалі на імя ўпраўляючага Гродзенскай палатаю, які пераадрасаваў яе гродзенскаму губернатару. Да рапарта прыкладаўся пяты нумар „Мужыцкай праўды” (яшчэ адзін экземляр накіравалі міністру дзяржаўных маёмасцей). Іван Рабічка паведамляў, што за месяц да прыезду ісправуніка знайшоў адзін асобнік уваткнутым у шчыліну дзвярэй сваёй хаты, а другі быў знойдзены ў той жа час дзясяцкім Казімірам Хмарам уваткнутым у агароджу побач з яго хатаю. Калі Іван Рабічка, сам неадукаваны, паказаў „праламацыю” селяніну Юрыю Зенчуку, то той сказаў, што знаходзіў падобнае яшчэ ў канцы ліпеня ці пачатку жніўня 1862 года каля ўласнага жылля. Той ліст ён перадаў адукаванаму селяніну вёскі Войнаўцы Казіміру Станкевічу. Таму сакольскі ісправунік накіраваўся да Казіміра Станкевіча з загадам аддаць яму праламацыю, але атрымаў толькі тлумачэнне, што праламацыю ў яго ўжо адабралі — зрабіў гэта шляхціц ваколіцы Ігнатовічы Антон Станкевіч.

13 студзеня пад грыфам „сакрэтна” з Вільні ў Войнаўцы для высвятлення ўсіх абставін справы накіраваліся генерал-маёр Абрамовіч, які знаходзіўся пры віленскім губернатары для асаблівых даручэнняў, і штабс-капітан корпуса жандараў Шпэер, а разам з імі аўдытар Малыгін.

Ужо 20 студзеня ў Гродна быў адпраўлены рапарт, што Іван Рабічка знайшоў „Мужыцкую праўду” не побач з уласнай хатай, як першапачаткова даносіў, а атрымаў яе ад роднага брата Антона, якому ў сваю чаргу яе перадаў часоваабавязаны селянін вёскі Гапелы Рыгор Барчукоў.

У сувязі з новай інфармацыяй, генерал-маёр Абрамовіч звярнуўся да кіраўніцтва 2-га стралковага батальёна ў Саколку з загадам накіраваць да яго вайсковую падмацаванні. 24 студзеня ў мястэчка Адэльск былі накіраваны 40 чалавек на чале з прапаршчыкам Дзьякавым.

У самой Саколцы ўлады арганізавалі следчую камісію, якая 3 лютага ў рапарце на імя кіраўніка Гродзенскай губерні паведамляла, што згодна паказанням Івана Рабічкі пра існаванне змовы супраць урада ў Войнаўцах арыштаваны 44-гадовы селянін той жа вёскі Мацей Цюхна, які „обвиняется в распространении между крестьянами идей о восстании против Правительства с обещанием участвовать в этом восстании”. Яшчэ адзін удзельнік змовы — Іосіф Горчак быў прыцягнуты да справы „по показанию солдатки Агаты Садковской потому, что будто бы он с сельским писарем из Зубрицы Павловичем, братом его фельдшером и дворянином Подвысоцким бывал в доме крестьянина деревни Войновец Игнатия Маркевича, для чтения и писания каких-то бумаг против Правительства”. І хоць апошняе абвінавачванне не пацвердзілася, паколькі Садкоўскую ў яе намове падгаварыў Рабічка, Горчака ўсё роўна



MUŽYCKAJA PRAUDA.



Jaśko Haspadar z pad Wilni.

арыштавалі — па падазрэнні ва ўкрывальніцтве збеглага Казіміра Станкевіча.

Іосіф Горчак меў 26 гадоў, каталік, былы студэнт Пецярбургскага ўніверсітэта. У 1862 годзе ўдзельнічаў у студэнцкіх хваляваннях, у выніку чаго быў арыштаваны і два месяцы ўтрымліваўся ў Кранштацкай крэпасці, адкуль сасланы пад нагляд паліцыі на радзіму ў вёску Скарбляны Сакольскага ўезда, у якой заклікаў сялян да ўдзелу ў рыхтаваным паўстанні супраць царскіх улад. 22 жніўня Горчаку зачыталі прыгавор і адправілі ў Пермскую губерню. Прычым доказаў супраць яго не было, за выключэннем слоў Рабічкі.

Горчак разам з Цюхнам першапачаткова знаходзіліся ў турме ў Саколцы, адкуль былі накіраваныя ў Гродна. У дадатак да іх Іван Рабічка абвінавації яшчэ некалькіх жыхароў Войнаўцаў: шляхціца Мікалая Падвысоцкага, зубрыцкага пісарчука Аляксандра Паўловіча і селяніна Ігнація Маркевіча ў іх зборы на хаце Маркевіча з мэтаю напісання супрацьурадавых папер, у тым ліку „Мужыцкай праўды” (надуманасць чаго з'яўляецца відавочнай, паколькі газета павінна была друкавацца на спецыяльным абсталяванні, але непісьменны Рабічка гэта дрэнна ўяўляў), што, дарэчы, абвінавачання не прызналі. Таксама ён абвінаваціў міравога пасярэдніка Цярпілоўскага і памешчыка Льва Антонавіча Цыдзіка ў падбухторванні самога Рабічкі да ўдзелу ў паўстанні.

Іван Юр'еў Рабічка меў 33 гады, каталік, неадукаваны, жанаты. На следстве паведаміў, што пад судом і ў штрафах ніколі не быў. Аднак, як высвятлілася, з шэрагам людзей, на якіх Рабічка напісаў данос, у яго былі асабістыя канфлікты. Яшчэ ў 1861 годзе Рабічка быў затрыманы пры атручэнні жывёлы і арыштаваны Падвысоцкім, аканомам маёнтка Войнаўцы памешчыка Цыдзіка. Падчас высвятлення Цыдзік паведамляў, што Рабічка „как человек неспокойного характера и питающий злобу к Подвысоцкому, не раз доходил до драки с ним и однажды в 1861 году изорвал на нем платье, делая при том угрозы сжечь мое имение”. Цыдзік і Цярпілоўскі патрабавалі асудзіць Рабічку за паклёп. Аднак з пачаткам паўстання шэраг з абвінавачаных Рабічкам людзей далучыліся да паўстанцаў, у сувязі з чым віленскі генерал-губернатар Міхаіл Мураўёў, прысланы для задушэння краю, асабіста загадаў вызваліць Рабічку ад далейшай крымінальнай адказнасці.

Асабістую варожасць Рабічка адчуваў і да Мацея Цюхны, з якім ён учыніў бойку 21 кастрычніка 1862 г., у сувязі з чым быў прыгавораны або да 20 удараў бізуна, або павінен быў вярнуць апошняму паўтара рубля за разарванае адзенне. Паколькі на працягу месяца Рабічка не выплаціў прызначанага штрафу, то атрымаў 20 удараў. Аднак следчай камісіі ён заявіў, што яму нанеслі не менш 50 удараў, а падчас выканання прыгавору „я имел в кармане 40 рублей, которые мне выронили или может быть вынули, а даже и карман совсем оборвали”. Рабічка жорстка адпомсціў сваім крыўдзіцелям.

Мацей Цюхна быў абвінавачаны ў распаўсюджванні сярод аднавяскоўцаў „Мужыцкай праўды”, угаворванні іх стварыць таемную арганізацыю і не даваць рэкрутаў у царскае войска. Ён гаварыў сялянам, што ў Варшаве ўжо шмат нарыхтавана зброі і адзежы для будучага паўстання, якое пачнецца вясною з выступлення памешчыкаў і шляхты. Хто ж да яго не далучыцца, то таго вёскі будуць спалены, а яны самі парублены сякерамі. Адночы на пярэчанне селяніна Свідэрскага „Посмотрим чья сила возьмет”, Цюхна адазваўся: „Я сам, один, вас десятерых своею рукою побью”. Таксама ён запэўніваў, што імператара Аляксандра ІІ падстрэлілі нейкі рускі і таму цар выехаў на лячэнне за мяжу. Гэтыя звесткі хадзілі па ўсёй ваколіцы. Напрыклад, у вёсцы Номікі пра гэта распавядаў Матэвуш Варонін, а жыхар той жа вёскі Мацей Шкута гаварыў, што ў Войнаўцах ужо створана змова не даваць рэкрутаў і яны рыхтуюцца ісці ў паўстанне. У выніку па даносе Рабічкі былі арыштаваны таксама сяляне Андрэй Шкута з в. Номікі і Рыгор Гурскі з вёскі Мінкаўцы.

За распаўсюджванне чутак пра падрыхтоўку паўстання і нарыхтоўку ў Варшаве розная зброі і адзення для паўстанцаў па даносе сяброўкі Антаніны Аброжы шэсць тыдняў за кратамі правяла сялянка Каміла Марцэлевіч, якая так і не прызналася ў злачынстве і не выдала селяніна Ігната Маркевіча, у якога служыла, пра таемныя начныя сходы ў яго хаце.

Што тычыцца Мацея Цюхны, то 24 мая па рашэнні Міхаіла Мураўёва ён быў прыгавораны да расстрэлу, які першапачаткова павінен быў адбыцца ў Гродне. Аднак напачатку лета яго перавялі ў Саколку, дзе 6 (18) чэрвеня ў 10 гадзін раніцы на плошчы побач з Беластоцкай заставай ён і быў пакараны смерцю.

Удалейшым спіс абвінавачаных Рабічкам толькі пашыраўся, а яго даносы часта з'яўляліся адзіным доказам супрацьурадавых дзеянняў абвінавачанага чалавека, як у выпадку аканома Падвысоцкага, адпраўленага ў Пензенскую губерню. Такому аўтарытэту даносаў Рабічкі садзейнічала тое, што ўзгаданыя ім Паўловіч і Маркевіч падаліся ў паўстанцы.

Уноч на 18 чэрвеня ў вёску Войнаўцы прыйшоў паўстанцкі атрад, які акружыў вёску, каб злавіць і пакараць Івана Рабічку ў адказ на пакаранне па яго даносе Мацея Цюхны. Аднак не знайшлі, пасля чаго спалілі яго хату разам з сельскагаспадарчымі пабудовамі. Па словах Рабічкі, яго страты ў выніку пажару склалі 1565 рублёў, яшчэ 200 рублёў ён быццам бы згубіў у лесе, ратуючыся ад паўстанцаў уцёкамі. Яму было выдадзена 1307 руб. 11 кап. часткова з кантрыбуцыйных грошай, часткова са сродкаў, ахвяраваных на дапамогу пацярпелым ад паўстанцаў. Аднак 31 снежня 1863 года Мураўёў даручыў гродзенскаму губернатару цалкам вярнуць усе страты Рабічку, нават „згубленыя” ў лесе 200 рублёў.

Упадпале хаты Рабічка абвінавачваў шляхціца Івана Сабалеўскага, а таксама леснікоў Ляскоўскага і Антона Даўгерта.

29 ліпеня 1863 года гродзенскі губернатар Бабрынскі накіраваў да Мураўёва ліст з просьбаю не адпраўляць у Вяцкую губерню прыгавораных да ссылкі сялян Гурскага і Шкуту, якія, па словах Рабічкі, з'яўляліся яго сакрэтнымі даносчыкамі і аказвалі яму асаблівыя паслугі (аб чым, чамусьці, першапачаткова не было паведамлена). Сам Рабічка гатовы быў узяць іх на паруку. 12 жніўня з такой жа самай просьбай на імя Бабрынскага і спасылкай на Рабічку звярнуўся жыхар вёскі Номікі Андрэй Шкута, сын якога Мацвей сядзеў у сакольскай турме. І хоць МУС 15 жніўня паведаміла гродзенскаму губернатару пра немагчымасць гэтага, 31 жніўня 1863 года Мураўёў асабіста дазволіў, з улікам хадайніцтва і заслуг Рабічкі, перадаць Гурскага і Шкуту на даручальніцтва іх вясковых таварыстваў.

Атрыманы поспех па вызваленні абвінавачаных ім жа самім з удзел у паўстанні дазволіў Івану Рабічку зарабіць на гэтым неблагі капітал. 8 месяцаў ён паспяхова нажываецца на чужым горы, пакуль не ўзяў 100 рублёў срэбрам з дваранкі ваколіцы Мішкенікі Юльяны Ігнатовічавай за вяртанне са ссылкі яе мужа Восіпа Ігнатовіча, што, аднак, не выканаў. У выніку 4 красавіка 1864 года вайсковы кіраўнік Саколкі паведамляў гродзенскаму губернатару, што „государственный крестьянин Иван Рябичка, будучи награжден Главным начальником края за убытки понесенные им во время мятежа, в настоящее время надеясь на снисходительность Начальства, позволил себе вымогать у разных лиц деньги и другие предметы угрожая в противном случае политическим доносом”.

10 мая з Вільні прыйшоў загад пра арышт Рабічкі „изобличенного в противозаконных вымогательствах денег от родственников политических преступников, а равно и в других предосудительных поступках”. Прычым дакумент падпісаны „За отсутствием генерал-губернатора” яго ад'ютантам. Відавочна, Мураўёў не мог падпісаць загад на арышт даносчыка, якому аказваў столькі міласцяў і дзякуючы якому ў Сібір былі выпраўлены некалькі дзясяткаў чалавек, а адзін нават, Мацей Цюхна, быў расстраляны ў Саколцы.

Васіль ГЕРАСІМЧЫК

ISSN 0546-1960